

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 38 (13570)

14— 20 верасня 1992 года

Кошт 3 рублі.




## *Адкрыты ліст працоўнага калектыву штотыднёвіка "Чырвоная змена" Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сп Шушкевічу С.С.*

Да вас звяртаецца калектыў рэдакцыі адной са старэйшых газет рэспублікі. На працягу больш як сямідзесяці гадоў "Чырвоная змена" служыла і служыць Бацькаўшчыне, прапагандуючы беларускасць і родную мову. Сёння мы развіваем свае традыцыі, клапоцімся аб далейшым развіцці беларускага друку. Рэдакцыя "Чырвонай змены" выступіла заснавальнікам беларускамоўных часопісаў "Зрок" і "Першацьвет", апошні выпускаецца толькі супрацоўнікамі "Чырвонай змены". Пры газеце працуе літаб'яднанне "Крыніцы", якое выхавала не адно пакаленне маладых паэтаў і празаікаў. Штогод "Чырвоная змена" мяркуе выпускаць для творчай моладзі спецыяльны альманах "Крыніцы".

Разам з гэтым у апошні час існаванне газеты пастаўлена пад пагрозу. Нягледзячы на ўзяты дзяржавай курс на беларусізацыю, "Чырвоная змена", як і шэраг іншых беларускамоўных выданняў, апынулася ў нялепшым становішчы. Як ні парадаксальна, сёння дзяржава выступае заснавальнікам у асноўным рускамоўных выданняў. У той жа час беларускамоўны друк выдаецца грамадскімі арганізацыямі, якія самі знаходзяцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Пры падзеле прэсы на "нашу" і "не нашу" "Чырвоная змена" стала падчарыцай у дзяржавы. Немалых намаганняў каштавала, каб увогуле ўключыць "Чырвоную змену" ў спіс на датацыю.

Рэзка пагоршыліся адносіны з выдавецтвам "Беларускі Дом друку". Увесь цяжар гаспадарчых праблем лёг на рэдакцыю. Непамерна ўзраслі паліграфічныя паслугі, пры адносінах з рэдакцыяй выдавецтва закладвае рэнтабельнасць у 40 працэнтаў, атрымліваючы за наш кошт значны прыбытак. Створаны ўмовы, пры якіх транспарт рэдакцыі фактычна высяляецца з гаража выдавецтва. Дарэчы, увесь транспарт, які належыць рэдакцыі, быў канфіскаваны выдавецтвам, а рэдакцыю прымусілі яго выкупіць.

За закрытымі дзвярыма вырашаецца кіраўніцтвам выдавецтва пытанне аб перасяленні рэдакцыі ў новы будынак Дома друку.

Дзіўныя адносіны складваюцца з Міністэрствам сувязі і інфармацыі. Дзякуючы "актыўным намаганням" міністэрства "Чырвоная змена" трапіла ў каталог без падпісной цаны, падпіска была пачата са значным спазненнем і вялікімі матэрыяльнымі стратамі для рэдакцыі.

За апошнія пяць год рэдакцыя не атрымала ніводнай кватэры, супрацоўнікі "Чырвонай змены" ў параўнанні з журналістамі рэспубліканскіх рускамоўных выданняў маюць самую нізкую зарплату і ганарарны фонд. У выніку ў апошні час шэраг таленавітых журналістаў "Чырвонай змены" перайшоў працаваць у іншыя высокааплачваемыя выданні.

У такіх умовах рэдакцыя не можа працаваць нармальна і будаваць свой шлях на перспектыву без дзяржаўнай дапамогі. На наш погляд, было б правільна прыняць асобную пастанову Вярхоўнага Савета аб абавязковым дзяржаўным фінансаванні, льготным падаткаабкладанні, а таксама матэрыяльным забеспячэнні беларускамоўных выданняў.

Шаноўны Станіслаў Станіслававіч!

Разумеючы складанасць часу, Вашу занятасць у вырашэнні найбольш важных праблем жыцця рэспублікі, мы спадзяёмся, што Вы не пакінеце ў бядзе старэйшую беларускую маладзёжную газету "Чырвоная змена" і іншыя беларускамоўныя выданні, падтрымаўшы гэтым самым правядзенне ў жыццё беларускамоўнай палітыкі.

Ад імя працоўнага калектыву рэдакцыі
Галоўны рэдактар У.Бельскі
Старшыня пярвічнай журналісцкай арганізацыі П.Сіманаў
Старшыня прафкома А.Смірноў.

## Стоп-факт

### БНФ НАПЯРЭДАДНІ РЭФЕРЭНДУМУ

11 верасня адбылося паседжанне Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". На паседжанні была прынята Ухвала "Прыярытэтныя кірункі палітыкі БНФ пад час падрыхтоўкі да рэферэндуму".

БНФ імкнецца да стварэння і ўмацавання блоку дэмакратычных сіл Беларусі (пры ўдзеле АДПБ, БСДГ, БСП, БХДЗ, НДПБ, рабочага руху, іншых дэмакратычных плыняў), забеспячэння магчымасці міжнароднага кантролю за сітуацыяй вакол рэферэндуму ў Беларусі.

### КАТАЛІКІ ПЛАЦІЦЬ НЕ ХОЧУЦЬ. А ПРЫЙДЗЕЦЦА

Ужо другі тыдзень працягваецца пікетаванне мінскімі каталікамі Міністэрства культуры Беларусі. Не так даўно вернікі атрымалі такім шляхам пад свой касцёл будынак Дома кіно і, паверыўшы ў сілу пікетаў, на гэты раз патрабуюць передачы ім канцэртнай залы Белдзяржфілармоніі, якая зараз знаходзіцца ў будынку царквы Святой Троіцы.

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч правёў "круглы стол", на якім разглядалася пытанне передачы канцэртнай залы каталікам і было вырашана, што ў бліжэйшы час будзе падлічана колькасць сродкаў, выдаткаваных на рэканструкцыю будынка з 1937 года, і рымска-каталіцкай царкве Беларусі будзе прад'яўлены адпаведны рахунак на аплату. Каталікоў такое рашэнне не задаволіла, і пікетаванне пакуль працягваецца.

Вернікаў зразумець, канешне, можна: яны хочуць вярнуць сваё. Але не трэба ж забывацца і пра тых, хто наведвае зараз Белдзяржфілармонію, каб далучыцца да мастацтва. Куды ж падацца ім?

### ВЫСТАВА ДЛЯ ГУРМАНАЎ. І НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ІХ

У сераду, 16 верасня, у выставачным комплексе на праспекце Машэрава ў Мінску адкрыўся міжнародны кірмаш-салон "Бістро-92".

Тыя, хто наведвае выстаўку, адразу ж спыняюцца сярод сучасных інтэр'ераў кавярняў і рэстаранаў (якія, дарэчы, вельмі адрозніваюцца ад тых, да якіх мы прывыклі). Увазе наведвальнікаў прадстаўлены найноўшыя ўстаноўкі па прыгатаванню марожанага, чабурэкаў, паветранай кукурузы. Дарэчы, можна і пакаштаваць прадукцыю гэтых апаратаў. Ласуны могуць пачаставацца тортамі, пірожнымі, булачкамі і іншымі кандытарскімі вырабамі як мінскай вытворчасці, так і прывезенымі з Вільнюса і Рыгі.

Адразу на кірмашы, як кажуць, не адыходзячы ад касы, можна аформіць кантракты на набыццё абсталявання.

Прысутнічаюць на выстаўцы і вядомыя ўсім самавары. Гэта — калекцыя мінчаніна Мікалая Шаўцова. Адным словам, кірмаш-салон "Бістро-92" павінен зацікавіць усіх.



## Дабрачыннасць

### СТАНЬЦЕ СПОНСАРАМ ЖЫЦЦЯ!

Мы неслі чытачам Беларусі свае паведамленні з розных рэгіёнаў СНД. Мы прапаноўвалі навіны, асвятлялі падзеі, абапіраючыся толькі на факты, не робячы акцэнтаў і вывадаў. Але ліст, адрасаваны ў агенцтва Юліяй Рэвуцкай, жонкай чалавека, жыццё якога, не марудзячы ні дня, неабходна "выкупіць" у смерці, – выключэнне са звычайных журналісцкіх паведамленняў.

"...У Дзмітрыя вострая лейкемія, і выратаваць яго можа толькі лячэнне і аперацыя ва Універсітэцкай клініцы Берліна, для чаго неабходна каля трыццаці тысяч марак. Хвароба жорсткая і хуткая. Не разлічваем на дапамогу нашага Міністэрства аховы здароўя або былога Міністэрства абароны, якое паслала ў 1986 годзе Дзмітрыя (салдата тэрміновай службы) у 30-кіламетровую зону Чарнобыля без элементарнай абароны ад выпраменьвання".

А на некалькі гадоў раней служба ва Узброеных Сілах ужо забрала з жыцця брата Дзімы. Бацькі, якія чакалі вяртання з арміі старэйшага сына, Юрыя, атрымалі ўзамен толькі цынкавую труну. Сёння пытанне здароўя Дзмітрыя – гэта пытанне працягу роду Рэвуцкіх.

Дык ці застануцца іх сем'і на нашай зямлі? Ці не ўключана рэспубліка на адлік "самаліквідатара"? Гісторыя ж гэтай сям'і можа стаць сігналам пачатку вымірання ўсёй беларускай нацыі, якая захлынулася ў патоку радыяцыі, у непапраўных памылках яе нядбайных чыноўнікаў і "апецы" ўласнай арміі?

Станьце ж спонсарам дыхання, спонсарам погляду і ўсмешкі гэтага 26-гадовага хлопца! Няхай ягонае жыццё не абмяжуецца кароткай маладосцю!

Толькі наша сумесная дапамога зможа вырваць Дзмітрыя ў смерці. Рахунак № 10772, Ашчадны банк СССР, філіял № 8388/0232 Маскоўскага аддзялення г.Мінска. Адрас Юліі Рэвуцкай, жонкі Дзмітрыя: 220100, г.Мінск, вул.Цнянская, 21-44.

Журналісты агенцтва РІД.

Праз газеты Рэспублікі Беларусь, якія падтрымалі наш зварот, мы будзем інфармаваць грамадскасць аб стане здароўя Дзмітрыя Рэвуцкага і аб ходзе паступлення грашовых сродкаў для правядзення аперацыі.

## А КАРЫКАТУРЫСТ МАЛЮЕ...







## Увага! Увага! Увага!

З 1 па 4 кастрычніка 1992 г. у Полацку адбудзецца фестываль дзіцячай творчасці "Восьмы колер вясёлкі", заснавальнікамі і арганізатарамі якога выступілі Полацкі гарадскі Савет народных дэпутатаў, нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі, газета "Знамя юности", штотыднёвік "Чырвоная змена", культурна-спартыўны комплекс В/А "Шклоўалакно".

Фестываль праводзіцца ў чатыры этапы.

Для ўдзелу ў фестывальных канцэртах запрошаны вядомыя калектывы і выканаўцы: дзяржаўны эстрадны ансамбль Беларусі "Песняры", група "Верасы", ансамбль народнай музыкі "Свята", тэатр песні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, Дзмітрый Малікаў, Міхаіл Баярскі, ансамбль "Сябры", арганістка Ксенія Пагарэлая, шоу Бары Алібасава група "На-На", група "Камбінацыя" і іншыя вядомыя эстрадныя выканаўцы.

Мерапрыемствы ўсіх чатырох дзён будуць транслiравацца па праграмах Беларускага радиё і тэлебачання, асвятляцца ў рэспубліканскай прэсе.

Ад імя аргкамітэта і заснавальнікаў фестываль звяртаецца да ўсіх жадаючых з прапановай выступіць спонсарамі, мецэнатамі, фінансавымі арганізатарамі гэтага свята для дзяцей.

Усе, хто жадае прыняць удзел у фестывалі, аказаць дапамогу, выказаць прапановы і пажаданні, могуць звяртацца ў аргкамітэт фестывалю да выканаўчага дырэктара Аляксандра Рагачова па тэлефонах у Полацку: 4-20-24, 4-94-57, 4-41-66.

**Фестываль шукае спонсараў!**

## Правінцыяльная хроніка

### МІНУЛА КАРОТКАЕ ЛЕТА... І АГНІ "ПАРТЫЗАНСКІХ" КАСТРОЎ...

Кажуць, сорам — не дым, вочы не выесць. І то праўда. Відаць, выключна таму засталіся цэлымі на Віцебшчыне гаспадарнікі розных масцей, пакуль спрачаліся, чыё гарыць ды каму тушыць. Ужо ж гарэла... Тысяча васемсот шэсцьдзесят сем гектараў лясоў ды тарфянікаў. Зразумела, не абышлося тут без "партызанаў", якія ў лес ішлі не толькі адпачыць, але і пагуляць з чырвоным пеўнем. Каля паўтары тысячы чалавек ліквідоўвалі вынікі тых гульняў. А можа, гэта сам бог карае? Сказана ж у святым пісанні, што трава зялёная гарэць будзе. Але...

### ШТО НЕ ЗГАРЫЦЬ, ТОЕ НЕ ЗГНІЕ...

Прынамсі, так лічаць вучні Тургуноўскай няпоўнай сярэдняй школы Докшыцкага раёна. У згодзе з мясцовымі меліяратарамі яны падахвоціліся ўбіраць карчы на тарфяніках. Аднолькава сумленна працавалі як тутэйшыя, так і "госці" — гараджане, хто прыехаў у вёску на час, да бабулі на вакацыі. Застаецца спадзявацца, што меліяратары таксама не застануцца ўбаку і дзеці будуць доўга ўспамінаць добрым словам сваіх шэфаў.

### ЦІ ВЫСАХНЕ "РАСІНКА"?

На Міёршчыне такую мілагучную назву меў летнік. Толькі адпачываць у ім, прама скажам, было б дарагім задавальненнем. Мяркуйце самі: кошт пуцёўкі — больш за тысячу рублёў. І высахла б, відаць, "Расінка" пад неміласэрнымі промнямі хвалёнага рыначнага свяціла, калі б выдаткі на ўтрыманне летніка не ўзвалілі на свае плечы мясцовыя прафсаюзы. Бацькам засталося толькі даплаціць па сто семдзесят пяць рублёў на раток. Мізэр у параўнанні з сусветнай рэвалюцыяй.

Адпачылі — і зноў у школу. Верасень...

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

## Оба-на!

### ХАЦЕЛІ БЫЦЬ АФІЦЭРАМІ. СТАЛІ... МЕДБРАТАМІ

Ох, ужо гэтыя прадметы для "агульнага развіцця"! Як жа яны "дастаюць" студэнтаў. Дзеля таго, каб забіць пустыя месцы ў раскладзе заняткаў, часам уводзяцца такія прадметы, якія нашаму брату, магчыма, ніколі і не спатрэбяцца. Але начальства сказала, трэба выконваць.

У сувязі са скарачэннем арміі Беларусі ў Белдзяржуніверсітэце на гуманітарных факультэтах спынена навучанне студэнтаў на ваеннай кафедры. Па гэтай прычыне аб'ём вучэбнай нагрузкі скараціўся на адзін дзень у тыдзень.

Такі выхад з сітуацыі кіраўніцтву універсітэта здаўся не зусім добрым: маўляў, вельмі многа свабоднага часу з'явіцца ў студэнта. Непарадак. Таму ў панядзелак, 14 верасня, рэктараm БДУ правёў пасяджэнне, на якім было вырашана: "Калі не стала для юнакоў ваеннай падрыхтоўкі, няхай будзе медыцынская. Зробім з іх медбратоў".

Фёдар Мікалаевіч Капуцкі, рэктар Белдзяржуніверсітэта, у сувязі з гэтым фактам паведаміў, што навучанне па медпадрыхтоўцы будзе ўсяго адзін год, прыкладна 120 гадзін (палавіна з якіх – практычныя). Пасля заканчэння гэтага курсу юнакі атрымаюць пасведчанне медбратоў. У жыцці ўсё спатрэбіцца.

Але ад арміі студэнтаў такая замена ваеннай кафедры не абароніць. Таму некаторыя студэнты адмаўляюцца наведваць медкурс. Такіх студэнтаў, сказаў Ф.М.Капуцкі, з універсітэта будуць выключаць.

### ДЗЯЎЧЫНКІ ПА ВЫКЛІКУ

Зараз кожны імкнецца заняцца бізнесам. Хто мые машыны, хто плодзіць "камкі", хто гандлюе валютай, хто сваім... целам. Да ўсяго мы прывыклі, а вось да паслуг прадстаўніц самай старажытнай прафесіі не можам. Напэўна, таму сарамліва чырванеем, калі на "блакітных" экранах з'яўляюцца аголеныя прыгажуні, таму тыцкаем пальцамі ў расклееныя на слупах аб'явы, дзе напісана, што хтосьці прапануе свае "канфідэнцыяльныя паслугі"...

Вось, напрыклад. На мінулым тыдні ў газеце "Добры вечар" з'явілася сціплая аб'яўка "Аказваем паслугі мужчынам" з тэлефонам.

Цікава. Тэлефануем. На пытанне, якія ж гэта паслугі, прыгожы дзявочы галасок адказвае: "Інтымнага характару". Як аказалася, паслугі гэтыя далёка не танныя: тры тысячы рублёў за гадзіну.

"У нас працуюць дзяўчаты-прафесіяналкі па выкліку. Узрост – ад 18 да 24 гадоў. Хто грошы мае – карыстаецца".

Мяркуючы па ўсяму, не за гарамі і афіцыйнае прызнанне прастытуцыі?

Франц ЛЯВІЦКІ.




# "СТАНЬЦЕ З ПРАЦЯГНУТАЙ РУКОЙ!"

## – вымушаюць беспрацоўных афіцыйныя структуры

Сказаць па праўдзе, мне крыху сумна глядзець сёння на тых маіх аднагодкаў, хто ў гэтым альбо ў мінулым годзе атрымаў на рукі дыплом з указаннем набытай спецыяльнасці, але да гэтага часу не можа ўладкавацца на працу. А такіх шмат.

Вось ужо два гады я працую ў "Чырвонай змене". З іх амаль год мне даводзіцца весці эканамічную старонку. За гэты час неаднаразова "Эканоміка" выступала ў абарону рынка, новых эканамічных ідэй і г.д. І глядзіш зараз на людзей, якія штодня наведваюцца ў гарадскія цэнтры занятасці! Не дае спакою думка: "Ну вось, створаны першы рынак — рынак працоўнай сілы. А што далей? І галоўнае, як дапамагчы гэтым людзям?".

Я не спрабую паставіць пад сумненне тое, што робяць цэнтры занятасці насельніцтва. Дзейнасць іх, безумоўна, далёкая ад стопрацэнтнага задавальнення заяў і патрабаванняў. Аде дзякуй ужо і за той невялічкі працэнт ад агульнай колькасці тых, хто туды звяртаецца, каму ў цэнтры дапамагаюць знайсці новае месца працы. Толькі, на жаль, працэнт гэты і сапраўды невялічкі. Менавіта таму і было прынята рашэнне прасачыць, ці можа дапамагчы беспрацоўным хто-небудзь, акрамя афіцыйных цэнтраў занятасці.

Аддзел па абароне працоўных і сацыяльна-бытавых правоў працоўных Федэрацыі прафесійных саюзаў РБ з'яўляецца, на мой погляд, такой грамадскай структурай, на якую не павінна ўплываць афіцыёзнае стаўленне да праблемы. Загадчык аддзела Яўген Мікалаевіч Стасюкевіч хоць і ўзгадаў сваю вялікую загружанасць, але згоду на сустрэчу даў даволі хутка.

Размову мы распачалі з пытання аб тым, якім па вастрыні здаецца Федэрацыі прафсаюзаў і, у прыватнасці, супрацоўнікам аддзела па абароне правоў працоўных праблема беспрацоўя на Беларусі.

— Адказ на гэтае пытанне бачны, я мяркую, ужо ў тым, што аддзел займаецца падрыхтоўкай да правядзення Дня дзеяння па беспрацоўю. Мэта гэтай акцыі — кансалідацыя і салідарнасць з усімі грамадскімі сіламі і рухамі, якія выступаюць у абарону людзей працы, супраць беспрацоўя; прыцягнуць увагу ўрада і мясцовых органаў улады да праблемы беспрацоўя, выпрацаваць канкрэтныя прапановы, якія маглі б палепшыць становішча беспрацоўных.

– І як гэта ўсё будзе выглядаць?

— Усе рабочыя выйдуць на вуліцы і такім чынам прадэманструюць сваю салідарнасць з беспрацоўнымі.

– Вы лічыце, што ўсе без аглядкі выйдуць на вуліцы, без страху за такую сваю актыўнасць заўтра папоўніць шыхты беспрацоўных?

— Я згодны з вамі. Сапраўды, у апошні час актыўнасць людзей знізілася. Вельмі ўжо часта актыўнасць любога кшталту вядзе да звальнення. А на фоне скарачэнняў аб'ёмаў вытворчасці, зварочвання прадпрыемстваў і скарачэння штатаў гэта вельмі ўплывае на рашэнні аб удзеле ў якойсьці палітычнай альбо эканамічнай акцыі.

– Скажыце, ці адрозніваецца чым-небудзь дзейнасць вашага аддзела ад працы, якую праводзяць цэнтры занятасці насельніцтва?

— Наколькі вы ведаеце, цэнтры занятасці рэгіструюць усіх, хто застаўся без працы, спрабуюць іх працаўладкаваць, альбо накіроўваюць на курсы па перакваліфікацыі. Калі ж з гэтым нічога не атрымліваецца, то выплачваюць дапамогу па беспрацоўю. Наша дзейнасць цалкам адрозніваецца. Мы ў асноўным кантралюем, каб не парушаліся законы, якія гарантуюць чалавеку працу, каб адміністрацыя выконвала свае абавязкі перад рабочым згодна з кантрактам альбо дагаворам. Калі ёсць такая неабходнасць, уступаемся за чалавека, калі яму пагражае неапраўданае звальненне. Як вы ведаеце, спіс звольненых зацвярджаецца адміністрацыяй у прафкоме.

– Калі той не з'яўляецца служкай адміністрацыі... А ці валодаеце вы хоць бы статыстыкай па беспрацоўю? Напрыклад, студэнцкаму?

— Безумоўна. Вось, напрыклад, дадзеныя па выпускніках гэтага года. З усіх выпускнікоў ВНУ з просьбай дапамагчы знайсці працу звярнуліся 1329 чалавек. Уладкавана — 211. З выпускнікоў тэхнікумаў 1391 чалавек не здолеў знайсці сабе працу. Уладкавана толькі 384. Сярод тых, хто сёлета скончыў ПТВ, 1985 засталіся без працы. Дапамаглі 629 чалавекам.

А калі б шмат хто з моладзі не ўладкаваўся ў камерцыйныя структуры альбо не заняўся бізнесам, лічбы былі б значна большыя.

– У прыватнасці, Вы якое бачыце выйсце з гэтай сітуацыі, дзе паратунак?

— Адна надзея на антыкрызісную праграму, якую праводзіць урад. Таму што пакуль не спыніцца спад вытворчасці і скарачэнне вытворчых аб'ёмаў, спыніць, а тым больш знішчыць беспрацоўе, мне здаецца, немагчымым. Беспрацоўе — гэта вынік разбалансаванасці эканомікі.

Як бачыце, сітуацыя з беспрацоўем вельмі складаная. І калі тым, хто страціў працу ў выніку скарачэння штатаў, уладкавацца на новае месца крыху прасцей — у іх усё ж такі ёсць працоўны стаж і кваліфікацыя, то зрабіць гэта тым, хто толькі ўчора атрымаў на рукі дыплом, нашмат складаней. Адны становяцца беспрацоўнымі, другія ідуць у камерцыю. Трэція працуюць не па спецыяльнасці, абы хоць неяк зарабляць на жыццё.

Менавіта такая сітуацыя склалася ў выпускніка хімфака БДУ імя Леніна Ільі Смагіна.

— З нашага курса амаль ніхто па спецыяльнасці не працуе, — распавядае Ілья. — А гэта 75 чалавек. За шчасце лічыцца атрымаць групу падоўжанага дня. А палова стаўкі лічыцца верхам магчымасцей. Яшчэ на трэцім курсе я выдатна зразумеў, што так яно і будзе, і пачаў шукаць працу на будучае. Былі прапановы, некаторыя нават цікавыя. Так, напрыклад, я мог уладкавацца працаваць па спецыяльнасці ў адну камерцыйную структуру і займацца экспрэс-аналізам забруджанай глебы. Работа не нудная і дзесьці нават цікавая. Але паўстала фінансавая праблема — ці забяспечыць гэта мне існаванне на адпаведным узроўні? Як вынік, цяпер я ўжо з'яўляюся спецыялістам Упраўлення каштоўных папер Акцыянернага камерцыйнага банка "Прыорбанк".

– І чым ты займаешся, хімік па адукацыі, у "Прыорбанку", калі не сакрэт?

— Мы, па вялікаму рахунку, ствараем фондавы рынак каштоўных папер. Мне, прынамсі, часцяком даводзіцца займацца аналізам рынку і прагнозам эканомікі, яе развіццём. Толькі ж ты сам разумееш, што ўсе мы ходзім пад урадам. І пакуль няма стабільнасці ў палітыцы — не будзе яе і ў эканоміцы. А пакуль у эканоміцы будзе спад, да таго часу над намі будзе вісець беспрацоўе і неўладкаванасць.

– Ці ёсць у цябе нейкія парады для тых, хто адразу пасля атрымання дыплома становіцца ў чаргу ў цэнтры занятасці насельніцтва?

— Не магу нічога параіць. Я лічу, што той, хто жадае працаваць, працу сабе знойдзе. А ўвогуле ўсё закладзена ў сістэме адукацыі. Нават з БДУ, які я лічу ўстановай № 1 у адукацыі, выходзяць нулявыя спецыялісты, ён не дае ім сур'ёзнай падрыхтоўкі. Цяжка думаць за іншых.

– Так што хто добра працуе локцямі, той і выжывае?

— Так, сёння такая сітуацыя, што, калі жадаеш добра ўладкавацца ў жыцці, трэба мець рашучасць ісці па галовах.

– І калі ў цябе так складзецца сітуацыя, ты гэта зробіш?

— Давядзецца. Хаця ўжо ад адной думкі пра гэта мне становіцца млосна. Увесь час думаеш пра тое, што чалавек гэты можа быць вельмі неблагі. Але я не хачу зваліцца на прыдонне жыцця.

– Ты не шкадуеш, што не працуеш па спецыяльнасці?

— Па шчырасці, не. Мне цікава тое, што я раблю, я добра атрымліваю і працую ў выдатным калектыве. Таму можна лічыць, што я задаволены.

Дзве размовы з двума рознымі людзьмі. А высновы рабіце самі. Што вам больш па душы, выходзіць на вуліцы і выказваць салідарнасць, стаяць у чарзе ў цэнтры занятасці насельніцтва, стаяць з працягнутай рукой ці самім пра сабе паклапаціцца? Безумоўна, эканоміка ў заняпадзе, спад вытворчасці, скарачэнні, але ж... З беспрацоўем трэба змагацца, і кожны сам-насам яго не пераможа. Гэта справа агульная. І палітыкаў, і эканамістаў, і асобных людзей.

Зміцер ЛУКАШУК,
аглядальнік "ЧЗ"
па пытаннях эканомікі.

## Беларусь: у межах і за межамі

Пры пасрэдніцтве фірмы "Халідыя" (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты) у сталіцы ААЭ Абу-Дабі павінен распачаць сваю дзейнасць буйны гандлёвы цэнтр, які прадставіць прадукцыю прамысловасці Беларусі.

* * *

Магілёўская універсальная рэгіянальная біржа атрымала ад урада Рэспублікі Беларусь заказ на закупку аднаго мільёна тон збожжа. Напэўна, гэта самы вялікі дзяржаўны заказ, перададзены для рэалізацыі біржавым структурам рэспублікі.

* * *

Камісія еўрапейскіх таварыстваў занята распрацоўкай "сцэнарыя" шырокага выхаду Беларусі на еўрапейскі рынак. Прадстаўнік камісіі Клод Мартэн наведаў Мінск, дзе спрабаваў высветліць, якімі экспартнымі магчымасцямі валодае рэспубліка і якія галіны беларускай прамысловасці здольны пастаўляць канкурэнтаздольную прадукцыю на рынак Еўропы. Клод Мартэн, акрамя таго, пацікавіўся і мытным заканадаўствам Беларусі. Некалькі дакументаў, ужо распрацаваных камісіяй для рэспублікі, былі перададзены Клодам Мартэнам у Саўмін.

* * *

У вёсцы Клейнікі пад Брэстам прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Прынцыпы арганізацыі і развіцця свабоднай эканамічнай зоны Брэста". Чаму менавіта тут? Справа ў тым, што паблізу ад гэтай вёскі, на тэрыторыі ў некалькі дзесяткаў гектараў, і мяркуецца размясціць зону.

Прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў з Беларусі і дзяржаў СНД абмеркавалі шырокі комплекс праблем, звязаных са стварэннем новай для нашай эканомікі структуры. Прыняты зварот да Вярхоўнага Савета рэспублікі, каб наш парламент абавязкова разгледзеў на восеньскай сесіі закон аб стварэнні свабодных эканамічных зон, заканадаўча замацаваў статус свабоднай эканамічнай зоны Брэста.

* * *

Ужо ў 1992 годзе павінна быць выпушчана першая партыя беларуска-нямецкіх аўтобусаў. Вядомая нямецкая фірма "Неаплан" са Штутгарта прадэманстравала ў Мінску сваю прадукцыю – аўтобусы. Урад Беларусі мяркуе падпісаць пагадненне з ёю аб вытворчасці ў рэспубліцы машын такога кшталту. Асноўным партнёрам фірмы "Неаплан" стане Мінскі аўтазавод. Мяркуецца, што на беларускі аўтобус будуць працаваць у рэспубліцы некалькі абаронных прадпрыемстваў.

## КОЛЕР ХАКІ — КОЛЕР НЕВІДЗІМАК

*"Некалькі месяцаў назад я вярнуўся з войска. Там кругом толькі і відаць было форму колера хакі. А што азначае гэты колер і ў якой краіне з'явілася такая вайсковая форма?*

**В. Самцоў,
Брэсцкая вобласць".**



На мове ўрду "хакі" азначае земляны, пыльны, рудавата-зялёны (з шэрым адценнем) колер. Менавіта такога колеру зараз армейскае адзенне, якое атрымала распаўсюджанне з-за сваіх маскіровачных якасцей.

Як паведаміла англійская газета "Гардыян", упершыню армейскае адзенне колеру "хакі" было прынята ў брытанскай арміі ў час англа-бурскай вайны 1899—1902 гадоў. У пачатку вайны брытанскія салдаты насілі традыцыйныя чырвоныя мундзіры, якія былі выдатнымі мішэнямі (з-за чаго англічане неслі велізарныя страты). Тады і было прынята рашэнне адзець салдат у форму колеру "хакі". У выніку гэтага кроку людскія страты англічан зменшыліся. Паступова абмундзіраванне колеру "хакі" было ўведзена ва ўсіх арміях свету.

## БЕЛАРУСКІЯ НЕФАРМАЛЫ: ДА ЦІ ПАСЛЯ?..

*"Мы з сяброўкай паспрачаліся, калі ўзнік беларускі нефармальны рух: да перабудовы ці пазней. Яна кажа, што былі нейкія суполкі і раней, а я памятаю, што "Талака" утварылася дзесьці ў 1986-м. Хто з нас мае рацыю?*

**Ю.Сініцкая,
г.Заслаўе".**

Бадай, абедзве вы маеце рацыю. Маладзёжная нацыянальная суполка "Талака" ў Менску ўзнікла ў 1986-м. Але яна была працягам руху, які гады за два перад тым распачаў менскі беларускамоўны клуб "Майстроўня". Да 1986 года філіялы "Талакі" ўзніклі ў шэрагу іншых абласных цэнтраў рэспублікі. У Гародні паўстала "Паходня", у Віцебску — "Узгор'е", у Лідзе — "Рунь", у Бярэсці — "Край".

Калі ў 1987 годзе вырашана было правесці ў Палачанцы пад Менскам I Вальны Сойм беларускіх суполак, дык у ім ужо прымалі ўдзел навастворыныя літсуполка "Тутэйшыя", рок-клуб "Няміга", якія аб'ядноўвалі маладую творчую нацыянальную інтэлігенцыю з усяе Беларусі, а таксама беларускія аб'яднанні з Украіны, Літвы, Эстоніі, Латвіі і інш.

II Вальны Сойм (1988) вымушаны быў адбыцца, як выказалася тады беластоцкая газета "Ніва", ва "унутранай эміграцыі" — у Вільні, не знайшоўшы паразумення з кіраўніцтвам рэспубліканскага камсамола. Суседняя Літва тады шпарчэй крочыла шляхам перабудовы. Затое на II Вальным Сойме была ўтворана Канфедэрацыя беларускіх нацыянальных суполак, якая стала прадвеснікам Беларускага народнага фронту, у якім аб'ядналася напрыканцы 1988 года не толькі моладзь, але і старэйшыя пакаленні.

III Вальны Сойм беларускіх нацыянальных суполак мяркуецца правесці ў 1993 годзе, бо за прайшоўшы час узнікла мноства новых нефармальных маладзёжных клубаў і аб'яднанняў.




## ЭХ, І ПРАКОЦІМСЯ! ТОЛЬКІ КАЛІ?

*"Чуў, што ў Гродна плануецца будаўніцтва завода па выпуску легкавых аўтамабіляў "Неман". Наколькі абгрунтаваныя гэтыя звесткі?*

**М.Каваленя,
г.Салігорск".**

Як паведамілі ў Гродзенскім гарвыканкаме, з'яўленне такога завода на Беларусі сапраўды магчыма. Але дакладна яшчэ не вырашана, калі і дзе пачнецца будаўніцтва. Ёсць прапановы наладзіць выпуск беларускіх легкавых аўтамабіляў не ў Гродна, што выклікае шмат нараканняў з боку прыхільнікаў руху за чысціню навакольнага асяроддзя, а ў адным з гарадоў вобласці. Увогуле ж перспектыва з'яўлення на нашых дарогах айчынных легкавушак, безумоўна, радуе. Дарэчы, гэта вельмі дапамагло б вырашэнню (хай часткова) праблемы занятасці насельніцтва. Вельмі хочацца, каб будаўніцтва аўтазавода не расцягнулася на доўгія гады, як нярэдка здаралася падобнае з буйнымі будоўлямі ў недалёкія, яшчэ добра памятныя ўсім нам часы.

## КАМСАМОЛ ВЫХОДЗІЦЬ НА АРЭНУ

*"Раскажыце, калі ласка, у якім стане знаходзіцца сёння ЛКСМ Беларусі?*

**Р.Рахленка,
г.Магілёў".**

Хочам адразу ж вас абрадаваць (ці засмуціць): камсамол Беларусі жыве. Як паведаміў Сяргей Вазняк, першы сакратар ЦК ЛКСМБ, другога ліпеня гэтага года ў Міністэрстве юстыцыі пад нумарам 377 зарэгістравана камсамольская арганізацыя нашай рэспублікі. Трэба дадаць, што ў іншых рэспубліках былога СССР камсамольцы яшчэ афіцыяльна не зарэгістраваны (існуюць толькі гарадскія і раённыя арганізацыі).

ЛКСМБ налічвае, як паведаміў С.Вазняк, каля двухсот членаў. Усяго ж у СНД сёння каля 10000 камсамольцаў. Адным словам, камсамол зноў выходзіць на арэну.

С.Вазняк дадаў, што 19 верасня адбудзецца пленум ЦК ЛКСМБ, на якім будзе прынята рашэнне аб скліканні 32-га з'езда камсамола Беларусі. Дзе будзе праходзіць з'езд, невядома: нашы камсамольцы пакуль што не маюць свайго будынка.

## "...ЛЕНІН БУДЗЕ ЖЫЦЬ?"

*"Камуністычная партыя перастала быць "кіруючай ды накіроўваючай". А помнікі яе правадыру засталіся. Колькі ж іх усяго? І калі яны будуць дэмантавацца?*

**А.Бурэйка,
г.Докшыцы".**

Як высветлілася, Беларусь займае, бадай, ці не першае месца сярод рэспублік былога СССР па колькасці помнікаў У.І.Леніну. Цяжка знайсці які-небудзь больш-менш буйны пасёлак (а тым больш раённы цэнтр), дзе не было б статуі правадыра. Як паведамілі ў рэспубліканскім Таварыстве па ахове помнікаў гісторыі і культуры, на тэрыторыі нашай рэспублікі налічваецца 502 помнікі Ільічу. А калі ўспомніць, што ў Беларусі толькі 117 раённых цэнтраў, то тут, як кажуць, і дадаць няма чаго. Хочацца толькі падкрэсліць, што на тэрыторыі СССР было ўсяго дзве тысячы "ленінаў". І з іх, як бачым, чацвёртая частка прыходзіцца на беларускую зямлю.

Што датычыць дэмантажу помнікаў У.І.Леніну, то для гэтага трэба падаваць хадатайніцтва ў Савет Міністраў, а там ужо асобна будзе разглядацца кожная прапанова па кожнаму помніку.

## МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ... РАЗВОД!

*"Цяпер многія маладыя сем'і з-за цяжкага матэрыяльнага становішча развальваюцца. Па гэтай жа прычыне знізілася нараджальнасць. Прывядзіце, калі ласка, лічбы.*

**А.Саўкова,
Магілёўскі раён".**

Вы маеце рацыю. Як паведамілі ў Дзяржкамстаце Беларусі, за перыяд са студзеня па ліпень гэтага года ў рэспубліцы зарэгістравана звыш 42 тысяч шлюбаў, каля 23 тысяч шлюбаў скасавана, нарадзілася 75,3 тысячы чалавек (у 1991 годзе за такі ж перыяд адпаведна 48,1—22,3—80,5). Як бачым, лічбы гавораць самі за сябе.

Асноўная колькасць разводаў прыпадае ў мужчын на ўзрост 30—34 гадоў (3491), у жанчын на 25—29 гадоў (4618). Сярэдняя працягласць сумеснага жыцця складае ад пяці да дзевяці гадоў...

## ЯК ЗАРОБІШ ПЕСА... НЕРВЫ БЕРАЖЫ.

*"Мы з мужам працавалі на Кубе. Наш заробак у кубінскіх песа пералічвалі на рахунак у Знешэканомбанку. Валютныя рахункі на Беларусі, як вядома, замарожаны. Ці можна даведацца, калі мы зможам атрымаць заробленыя грошы і па якому курсу нам іх будуць абменьваць?*




**Н.Крывенька,
г.Гомель".**

З гэтым пытаннем мы звярнуліся да Людмілы Васільеўны Філіповіч, начальніка апаратаўнага ўпраўлення Белзнешэканомбанка. Яна паведаміла, што 28 мая 1992 года адбылося пасяджэнне міждзяржаўнага Савета па пагашэнню ўнутранага і знешняга доўгу былога СССР, дзе была прынята пастанова, згодна з якой да канца бягучага года вырашана разлічыцца з усімі фізічнымі асобамі, на чыіх рахунках захоўваецца СКВ. Будзе весціся і пераразлік рахункаў з клірынгавымі, замкнутымі валютамі і пераваднымі рублямі (да ліку якіх, дарэчы, адносяцца і кубінскія песа) у СКВ у адносінах 5:1. Але калі гэта адбудзецца і калі будуць вяртаць грошы людзям, нават у Белзнешэканомбанку дакладна адказаць не змаглі...

**На пытанні адказвалі:
Сяргей Вішнеўскі,
Вітаўт Мартыненка,
Франц Лявіцкі.
Тэл. 32-13-04.**

# КРЫНІЦЫ

Прывітанне "Крыніцам"!

Ну вось, як і абяцала, дасылаю такія-сякія вершыкі... Адзінае, што прашу – лепей не друкаваць зусім, чым з нейкімі выпраўленнямі. Справа не ў тым, што я не ўспрымаю крытыкі, а ў тым, што я адказваю за кожны радок, які выходзіць ад майго імя. Таму хачу сама расплачвацца і за добрае, і за дрэннае... Якое ні ёсць, а сваё... (Жарцік).

Шчасліва ўсім!

Лерка.
26.08.92.
Полацк.



## Лера СОМ

* * *

Слова гуляе са мной
  у хованкі...
Але прыйдзе час —
  і я
Буду гуляць са словам.

* * *

Той, што прыйдзе за мной,
Ты таксама падорыш кветкі.
Той, што прыйдзе за мной,
Ты таксама будзеш казаць пра каханне...
Але гэта будуць іншыя кветкі,
Але гэта будзе іншая казка...
Але гэта будзе.
Але!

* * *

Ну вось яна, птушка,
  якая была
    ў небе...
Сядзіць на плячы
  і нікуды
    ўжо не ймецца...
Твой дзень і твой час
  кіруюць цяпер
    сусветам...
Усё для цябе —
  дык чаму ты сумуеш,
    сябра?..

* * *

*М.*

Мы незнаёмыя. Мой Божа,
  няўжо мы праўда незнаёмы,
Калі я больш за год канаю
  без гэтых рыфмаў і мелёдый...
Калі ты з патаемнай думкай
  пытаеш кожнага з падручных,
Ці не пачуў ён выпадкова
  маё імя на скрыжаваннях.
Распытваць болей не дазволіць
  тваё становішча, якое
Ты сам усталяваў, і мурам
  абвёў, цагліна за цаглінай...
А мне, крутой правіцельніцы,
  таксама будзе не да твару
Ісці да велічнага мэтра,
  якога ў думках называю

Даўно на "ты", ніяк інакш.
  Мы роўныя, і нам, папраўдзе,
Пляваць на статут этыкету...
  Вось толькі паглядзець у вочы
Адно аднаму, і не трэба
  ні споведзяў, ні тлумачэнняў...
Але... Сустрэчы замінаюць
  пакуль што велічныя зоркі.

Ды калі-небудзь... Што тут зробіш,
  не ведаю, калі дакладна
Мы апынемся твар да твару,
  і што тады нам навакольны
Сусвет і людзі ў ім, якія
  адразу возьмуцца, зласліўцы,
Шукаць у гэтым сэнс падвойны...
  Ну і няхай сабе шукаюць.

* * *

Не было пятлі і пылу:
Прыбрала я, як на свята,
Каляровую кватэру
І сяджу, чакаю госцю...
Нехта кажа: "Смерць — мужчына",
Толькі я, па завядзёнцы,
На жанчыну спадзяюся,
І таму падрыхтавала
Да яе прыходу сцэну,
На якой мы разыграем
П'есу ў стылі дзядзькі Сартра...
Рызыкоўная надзея
Застанецца на вячэру,
Раніцой жа ёсць гадзіна
На стварэнне маналогаў...
Тры лісты і тры канверты
(Лінаваная папера),
Тым усім, што не кахалі,
Не кахаюць і не будуць...
Кіньце! Тут не самагубства
З-за няшчаснага кахання!
Проста, зведаўшы дарогу,
Трэба зведаць і канчатак.
І пакольку маю права
Прызначаць сама спатканне,
Я яго на гэты вечар
І прызначыла. А зрэшты,
Адмаўляцца не да твару
Тым, каго я запрашаю...
Прыйдзе смерць.
Мы пагаворым,
І дамовімся, магчыма,
Там, дзе ні пятлі, ні пылу,
Тут, дзе вельмі любяць каву.

* * *

Дзень твайго нараджэння
Як водгулле смерці маёй...
Мне чамусьці здаецца —
Яны супадуць неўзабаве.
І чырвоная дата
Чырвонай набракне крывёй,
І такой застанецца:
Ужо ні адняць, ні прыбавіць.

Дзень майго заканчэння...
Цябе пазавуць ад стала...
Тэлефоны — такая прыдатная
Рэч для навінаў...
Раптам зробіцца цёмна,
Як быццам не сыпле святла
Крышталёвая люстра...
Пад столлю — адна павуціна.

Паімчыш на вакзал,
І праб'ешся, і купіш квіток,
І прыедзеш нарэшце
У мой перахрышчаны горад,
Дзе вісіць на сцяне
У кватэры ўчарашні лісток
"25 жніўня".
Карцінка: караблік і мора.

* * *

— Што ў цябе за гульня?
Ты знікаеш у момант, калі
непазбежная ўжо перамога,—
  так калісьці пытаў,
  і вось —
    за табой паўтараю,
бо неяк, жорсткай ноччу,
  прыйшло разуменне:
з перамогай прыходзіць
  канец
гэтым гульням, а я
  так люблю іх
і доўжыць мяркую
  да змогі.

* * *

Ты знік, а роспачы — няма...
Туга — яна была заўсёды.
Пачатак дзіўнай асалоды:
Ты знік, а роспачы няма.
Няхай жыццё — не пернік з мёдам,
Сустрэнемся — скажу сама:
— Ты знік, а роспачы — няма,
Туга... Яна была заўсёды.

---



## Міра ЛУКША

# Дзіўны хлопец

АПАВЯДАННЕ

Галя сядзіць у мяккім фатэлі, уся бліскучая, з модна завітымі ружовымі валасамі. Стужкі дыму з доўгай цыгарэты, якую Галя трымае ў руцэ з міндалевымі ружовымі пазногцямі, віюцца ўверх, да адчыненай форткі.

Дзесяткі срэбных пярсцёнкаў і далікатнай работы доўгія завушніцы, бліскучыя модныя блузачкі, вузенькія туфелькі, вышываныя джынсавыя нагавіцы — усё быццам з тэатральнага гардэробу — носіць Галя штодзень. Гэта цэлая яна, уся Галя — бліскучая, адначасова і сумная, прыгожая і непрыгожая, калі дакладна прыгледзецца да кожнай дэталі твару. Да гэтых маленькіх губ — завялікі нос. Лоб завысокі, брыво — выскубанае, і пры гэтым усім — Галя вельмі мілая сімпатычная дзяўчына, студэнтка.

— Чаго я хачу... Захацелася мне волі — замужам была б ужо ад красавіка. Хадзіў, маліў: "Калі мяне цяпер не хочаш, дай шанц, трохі часу". Добры хлапец. І нябрыдкі, і багаты, працавіты.

Пазнаёмілася Галя з Юркам на імянінах яе сястры. Сябра Ірыны прывёз з сабою сваіх калег. Пасядзелі, крышку выпілі, патанчылі. За сталом усе дружна заўважылі, што Галя з Юркам цэлую гадзіну гавораць, гавораць, гавораць... Кілішкі і талеркі некранутыя, а перад Галяй усё больш і больш недакуркаў.

Юрка не паліў, але цярпліва глытаў горкае паветра. Размаўлялі аб усім — аб жыцці, аб музыцы, аб філасофіі, этыцы, мастацтве. Галя ніколі не падумала б, што перад ёй чалавек, які скончыў толькі прафесіянальную школу. Апынуўся ён там, бо як след не прадумаў, чаго хоча ў жыцці: стаць на ногі, жыць па-свойму. Школа навучыла яго прафесіі, а іншыя веды здабываў сам. Шмат чытаў, падарожнічаў, ахвотна праводзіў час сярод інтэлігентнай моладзі, студэнтаў. Споўнілася яму 24 гады. Будаваўся на ўскраіне Беластока, зарабляў шмат. Там, дзе працаваў, цаніліся працавітасць, розум, ініцыятыўнасць. Бацькі крыху дапамагалі, і Юрка рашыў адкрыць уласны механічны варштат. Апрача таго, прырода падарыла яму выгляд мужчыны нябрыдкага, а грошы і дасканалы густ дазвалялі выглядаць яму час ад часу на аманта з французскага часопіса модаў...

Сустракаліся часта, многа гутарылі. Яна, заўсёды такая ахвотная да хлопцаў, застывала пры першым пацалунку. А Юрка дома і ў працы гаварыў толькі аб ёй — найпрыгажэйшай, найразумнейшай дзяўчыне. "Мусіць, з гэтага штосьці будзе", — прараквалі знаёмыя.

— Выходзь за мяне замуж. Я ўсё буду рабіць так, каб ты была шчаслівая, — казаў ёй Юрка.

Яна над гэтым думала. Хлапец ён спакойны, непітушчы, не курыць. І — далікатны, працавіты. Рэдка дзе такога спаткаеш. Але і нейкі дзіўны, несучасны.

— Не! Пакуль рана мне выходзіць замуж. Не таму, што цябе не кахаю. Я яшчэ замаладая, мне толькі 23.

Дзяўчына прывыкла да таго, што мае такі "рэзерв", такога чалавека, які кахае: ён і дапаможа, прабачыць; ён заўсёды чакае пад "тэлефонам", думае... Свой, заўсёды аднолькавы.

Пачаліся новыя хлопцы. На адну забаву, лагер ці экскурсію. Трэба пагуляць, нагуляцца — чаго лезці ў пялюшкі ды ў гаршкі!

Сядзіць Галя ў сваім-несваім пакойчыку ў інтэрнаце ў вялікім горадзе Беластоку, побач хлопец з мараў — рослы бландзін у шатландскім світэры. Тэлефон. Вядома — гэта Юрка звоніць, зноў цёплыя словы: "Чакаю, думаю, памятаю... Падумай пра мяне хоць апошні раз".

Галя задумалася.

Голас Юркі — добры, трывожны, свой. А вясёлы хлопец: "Што, нарачоны звоніць?" — "Не, толькі знаёмы. Ты цяпер найважнейшы, Артур...".

Галя сядзіць перада мной. Запальвае новую цыгарэту.

— Мірка, я аднаго не магу зразумець... Юрка жэніцца.

— Ну і што ж? Ты думала, будзе чакаць вечнасць?

— Але ён... Ён прымушаны... У яго будзе дзіцё! А да мяне ён нават і не дакрануўся, калі я сказала: "Далей — не!". І вось — у яго будзе дзіцё з нейкай паненкай, ткачыхай!.. Гэта подласць!

— Здзіўляешся?..

— Гэта на яго не падобна! Ён жа не мог быць такі... прасцяцкі, прымітыўны! Ён быў... такі незвычайны!

— Ён не меў права замяніць цябе, свайго анёла, на нейкую фабрычную дзяўчыну? І так хутка?..

Галя глядзіць уверх, на сівы дым цыгарэты.

---



## Мікола КАСЦЮКЕВІЧ

*Настроі*

# ГІСТОРЫЯ

Ружовае неба. Ружовая мара. Ружовыя вусны.
Вялікі горад. Вялікае каханне. Вялікая асалода.
Стары дом. Старое знаёмства. Старыя сумненні.
Голы сквер. Голы папрок. Голае сэрца.
Хаваецца месяц. Хаваецца пачуццё. Хаваецца талісман.
Прыгожая выява. Прыгожы ўчынак. Прыгожы ўспамін.
Пустая вуліца. Пусты пакой. Пустая галава.
Сумны краявід. Сумная музыка. Сумныя вочы.
Дарэмная агароджа. Дарэмнае спадзяванне. Дарэмны званок.
Сядае сонца. Сядае прымач. Сядае чалавек.
Шырокая прастора. Шырокае акно. Шырокая душа.
Гарыць далягляд. Гараць фіранкі. Гарыць цыгарэта.
Чорныя дрэвы. Чорная кава. Чорныя думкі.
Горкая хвіліна. Горкі прысмак. Горкая іронія.
Нечаканы дождж. Нечаканае жаданне. Нечаканы вынік.
Падаюць кроплі. Падае настрой. Падае меркаванне.
Гасне цыгарэта. Гасне надзея. Гасне позірк.
Позняя восень. Позняе раскаянне. Позняя госця.
Новая сустрэча. Новае аблічча. Новыя адчуванні.
Шчаслівая дата. Шчаслівы лёс. Шчаслівы смех.
Цёплы вечар. Цёплы плед. Цёплыя словы.
Празрыстае адзенне. Празрыстае віно. Празрысты намёк.
Зліваюцца абрысы. Зліваюцца рэшты. Зліваюцца губы.
Свежы ветрык. Свежае ўспрыняцце. Свежая прасціна.
Гарачыя сляды. Гарачы шэпт. Гарачае цела.
Бездакорныя адносіны. Бездакорныя формы. Бездакорныя рухі.
Знікаюць зоры. Знікаюць ворагі. Знікаюць трывогі.
Нараджаецца ранак. Нараджаецца любоў. Нараджаецца чалавек.

Даір СЛАЎКОВІЧ

# НЕ ВАРТА ПРА ДЗЯЎЧАТ...

Апавяданне

— Слухайце, таварыш карэспандэнт, вы ўсур'ёз пра нашых парачанскіх дзяўчат заметку пісаць надумаліся? Не варта б... Вох, гэтыя дзяўчаты! Перакананы: палова ўсіх непрыемнасцей — праз іх... І пакуты краўцоў над звышмоднымі порткамі, і бясконцыя пошукі самым немеханізаваным спосабам той, адзінай, і рэўнасць да пачарнення пазногцяў... А прагулы, прастоі, нават уцёкі з дому за блізкі свет — па пуцёўцы і без яе — ва ўсім яно, сэрцаеднае племя, вінавата.

Сенька Бахур вунь у аварыю трапіў. "Еду,— кажа,— па вуліцы, а яна ідзе... Статная, зграбная... А тыя лініі, а ножкі! Загледзеўся — слуп тэлеграфны насустрач, шух!"

У мяне, думаеце, лепш? Колькі папакутаваў без Надзі... Думак перадумаў і светлых, і чорных — больш, як торфу экскаватарам вывернуў. Пісьменніку б думкі тыя — на два раманы хапіла б. У адзін не ўлезлі б.

Раней я на пошце працаваў. Сартыроўшчыкам. Пісьмы чужыя сартырую, а сам уздыхаю: "Адно, толькі б адно пісьмо атрымаць ад яе, мае мучыцелькі". Яна ж сядзіць у суседнім пакоі, канверты ды паштоўкі прадае, яблык грызе. На мяне без смеху не пазірае. Калі ж слоўца і скажа, дык пякане ім так, быццам на бляшанку з растопленым сургучом незнарок сеў.

— Віценька, вы не выкарыстоўваеце ўсіх сваіх механізмаў на штэмпелёўцы.

— Ме-механізмаў?

— Але. Носік ваш прастойвае без працы. Вы б з дзятла прыклад бралі.

Гэта ад таго, што нос у мяне доўгі і завостраны. Быццам я яго ў галантарэйным магазіне выбіраў. Ці ў атэлье заказваў.

Або:

— Віця, падайце, калі ласка, мне той часопіс паглядзець.

— Які?

— У каторым пра ваш прыгожы абсмалены чуб напісана.

А чуб я прысмаліў, калі цётцы Броні, прыбіральшчыцы нашай, дровы сырыя ў грубцы распальваць дапамагаў ды ацэтону лінуў.

Скажаце, гэта жыццё?

Бывала, штэмпелюю чужыя канверты — белыя, ружовыя, блакітныя, з малюнкамі і без іх, і думаю: "Калі ж у гэтым моры кропелька будзе? Няўжо так і сасмягну, не дачакаюся?" Работа з рук валілася. Аднойчы задумаўся, не зглядзеў, як перакінуў пісьмы і па пустым стале шлёпаць стаў. Акурат начальнік вузла ў дзверы:

— Таварыш Чырыкаў, што вы робіце?

Я зірк на стол, на рукі — і прыдумаць чаго людскага не магу. Потым бух, як галавою аб печ:

— Трэніруюся, таварыш начальнік. Каб у марку трапна цаляць, каб заўжды пагашаць яе.

З таго часу мяне на вузле "снайперам-штэмпелёўшчыкам" называць пачалі. У насценгазеце, у сатырычным кутку "Даплатное", намалявалі. Быццам ляжу я паміж лапухоў, за вуглом канторы, на галаве шапка са старой газеты, і са штэмпеля, як з гранатамёта, у вялізны пакет меруся. Ім смех, а мне хоць на працу не выходзь. Яна ж, Надзя, з-за якой непрыемнасць выйшла, хоць бы адным брывом у мой бок павяла, слоўца лагоднае сказала.

Не паверыце — у мастацкую самадзейнасць запісаўся. У балалаечнікі. Усё з-за яе. Да свята мы такі канцэрт падрыхтавалі — на абласны агляд вязі — не прагоняць. Ну, думаю, галубка, тут я цябе застаўлю на сябе паглядзець.

Касцюм новы, карычневы, у светлую палоску пашыў. Кашулю купіў — нейлонавую... Падстрыгацца ў горад, у самую шыкоўную цырульню ездзіў...

А граць жа як стараўся, што выраблял! Пальцы па струнах так і лёталі, так і лёталі, са струн немагчымае даставалі. Нам апладысменты, біс — залу насіла.

Я вачэй узняць баяўся, стаяў са схіленай галавой. І вылоўліваў у агульным шуме, як скваркі з баршчу, воплескі дарагіх мне белых ручак.

Пасля даведаўся: Надзі на канцэрце не было. Да цёткі ў вёску Даўгінава паехала. Дарэмна я са скуры лузаўся.

Можна пераносіць жарты, кпіны, нават здзекі. Толькі не абыякавасць. Таму пасля свят узяў разлік і — махнуў на курсы меліяратараў. Лепш, думаю, на балоце з рапухамі ды камарамі жыць, як з табою, прыгажуня, сохнуць без пары.

Пакуль вучыўся — дармо было: у гурце, на людзях увесь дзень. А як на балота паехаў — хоць воўкам вый! Цалюткі дзень сам-на-сам са сваімі думкамі. У думках жа яна, Надзя. І ні рапухі, ні камары не дапамагаюць.

У адзін з выхадных у райцэнтр навастрыўся. Зайшоў у кантору. Паштары да мяне: "Здароў, Віця!", "Як жывеш, Чырык?", "Прывітанне слаўным меліяратарам!"

Прынялі, як вядомасць. Нават у гастраном збегалі. Толькі што мне з таго? Надзі не было. Адгул быў у яе, зноў да цёткі ў вёску з'ехала.

Успомніў я, што і ў мяне ў тым Даўгінаве нейкая далёкая радня ёсць. Ні то па бацьку, ні то па мачысе. На аўтобусную пайшоў, купіў білет і паехаў.

Сваячка жыла адна і прыняла па-царску: кілбасу падсмажыла —во! — маю любімую мачанку ў чыгунку згатавала. Праўда, без гэтага, без гарэлкі за стол селі. Я еў, пра сябе, пра сваіх расказваў, сам распытваў. Распытваў, галоўным чынам, дзе моладзь гуляе, ці часта танцы бываюць, хто да каго заляцаецца.

— Навошта табе наша міжнароднае становішча?— дзівілася сваячка.

— Збіраемся цэлым атрадам да вас пераязджаць,— схлусіў я.— Вось мяне і прыслалі на разведку.

Надзю толькі вечарам у клубе згледзеў. Зрабіла выгляд, быццам упершыню дылду такую бачыць, і адвярнулася. А ледзь радыёла зайграла, нейкі даўгінаўскі зух з гальштукам-мятлікам яе падхапіў. Потым яна танцавала з другім, з трэцім... Я ж увесь вечар, як пакінутая на ўзбочыне барана. Лаяў сябе, апошнім іржавым шплінтам абзываў. І на якую немач мяне ў тое Даўгінава паперла?

Начаваць да сваячкі позна вярнуўся. Яна ўжо спала, але дзверы дзеля мяне не замкнёныя былі. Каханне каханнем, а есці хочацца.

Успомніў, што днём сваю любімую верашчаку не даеў.

Святла не запальваў, каб не пабудзіць старую: навошта ж трывожыць жанчыну? Сам упраўлюся. Дзе спаць, мне яшчэ днём паказалі.

Вобмацкам акраец хлеба са стала, з-пад ручніка, узяў і — да прыпека. Пацягнуў носам ля аднаго чыгунка, потым ля другога. Нарэшце, нешта прыемнае. Я на смак: мачанка быццам бы, праўда, прастаялая, рэдкаватая. І пачаў з хлебам аплятаць. Без лыжкі, без міскі — проста з чыгунка. Усю ўхадзіў, скарынкаю дно вымазаў. Наеўся, выцерся ручніком і спаць.

Раніцою, ледзь радыё гімн адбіла, я з ложка: на працу не спазніцца б.

Гаспадыня на нагах ужо. Ходзіць, нешта шукае ля прыпека. Пытаецца:

— Ты, Віцік, не ведаеш, куды цялячае пойла з чыгунка падзелася? Падласку няма чым напаіць...

Бачыце, як выйшла? А ўсё праз яе, праз Надзю. Так і дагэтуль на мачанку глядзець не магу. Яна мне тым цялячым пойлам здаецца, хоць ужо шмат год мінула. А ўсё праз дзяўчат...

Надзя што? Пакінула вузел сувязі, працуе поварам. У нашым меліяратыўным атрадзе. Сына мы з ёю гадуем.

А праз дзяўчат парачанскіх вы ўсё-ткі не пішыце, таварыш карэспандэнт. Не варта: столькі праз іх неўтрасухі ды клопату!

---

*Повязь*

# БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІ «МАДЭРН»

*Дахаты з Менска я заўжды еду праз Юхнаўку, што ў Докшыцкім раёне. Невялікая вёска, што разлеглася сярод поля. Далей — лес, дзе сходзяцца дарогі. Прынамсі, так сёння. У 1921-ым было, пэўна ж, зусім не так.*

*Не кожнаму чалавеку наканавана нарадзіцца ў населеным пункце, назоў якога суўгучны твайму прозвішчу. Янку Юхнаўцу пашэнціла. Ці не таму ён шмат піша пра сваё маленства, перажывае свой побыт на Бацькаўшчыне, параўноўвае з родным краем далёкую чужыну. Зрэшты, спачатку паэт трапляе ў Нямеччыну — быў арыштаваны й вывезены фашыстамі. Потым лёс кідае яго ў Злучаныя Штаты, дзе і пасяляецца на сталае жыццё.*

*Пісаць вершы пачынае на замежжы. У Нью-Йорку выйшлі тры кнігі паэзіі Янкі Юхнаўца — "Шорах моўкнасьці" (1955), "Новая элегія" (1964), "Калюмбы" (1967). Манера вершаскладання вельмі нязвыклая для беларускага чытача. Яе можна ахарактарызаваць як мадэрн. Да нядаўняга часу гэта быў адзіны (як ні дзіўна) беларускамоўны авангардны паэт. Ёсць у яго таксама і творы, прысвечаныя беларускай мінуўшчыне: паэмы "Вежы стромкія ўзвысіў замак", "Калюмбы", "Сула", "Новая элегія".*

*Вельмі характэрны погляд Янкі Юхнаўца на цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі. Вось дзве яго думкі: "Мы тут ня вельмі багатыя друкаваць з Айчыны. Люба, што ў вас ёсць наступныя пакаленні, а ў нас тут пакуль няма.*

*Рантоўна пачуў із прэсы, што там, у Беларусі, дазваляецца сваволь польскіх каталікаў. У нас тут бывае барацьба з імі. Каталікі нахабна цьвярдзяць, што калі будзе ўся Беларусь каталіцкай, тады ня будзе ў нас "маскаля". Вялікая дурносьць! У "Шолаху моўкнасьці" ёсьць верш пра мядузу. Няўжо так будзе цягнуцца? Спадары, больш нацыянальнай агрэсіўнасці!"*

*Але ж — найболей пра паэта скажуць яго вершы. Нават, калі ў іх думка схаваная за перажыванні лірычнага героя.*

Уладзімір Пучынскі-Пірог.



Янка ЮХНАВЕЦ

* * *

Бывае часам,
нашыя галовы
ўнадзяць дзіўныя і думкі й летуценьні...
Накладаваны цяжка воз
за прыдарожны зачапіўся пень.

І не адчэпіцца. Стаіць.
Гаспадар лянуецца, напэўна, зьлезьці?..
Сьвет у цемраве і з возу
яму здаецца — маленькі й цесны.

* * *

Часіны надыходзяць усялякіх прадчуваньняў.
Зацята дыхаеш веснавым паветрам —
кунега.
І, забыўшыся на ўсё сьмяротнае,
цягнешся, як кволае сьцябло, зь цемры
да нечага.

Яно ажно знаёмае,
яно так зялёнае
там, дзе сады запушчаныя,
там, дзе стаўкі зарослыя —
адзіноцтва.

І не жадаецца абы з кім сустрэчаў,
але сукрыта думаеш пра ласкі ўчарайшыя.
А потым неяк узбудрожана:
— Няўжо адгэтуль шчасьце
пэўнае
паўночнае?

І адлятае ўсё мінулае.
На хвалях летуценьняў сябе шпурляеш.
І подых жданы забаўляе,
мучае
шыпшыну зацьвіцелую
сярод шыпуль сваіх
калючых.

* * *

Маразянае звонкае раньне.
Асьверы скрыпяць, і бушуе зара.
За вакном мая любая, бачу,
порстка поіць каня.
І да ганку да ейнага сьцежка
сьледам
раўнюткім лягла.
І летуценьні — думак узьлёты.
І словы потым — каханьне маё.

Маразяныя звонкія раніцы.
Асьверы скрыпяць і бушуе зара.
Прабягае мой позірк,
спыняецца
так часта ля яе двара.

## НЯ СЬНІЛАСЯ

Вясьняная ня сьнілася чароўнасьць.
Сьвядомасьць азірнуцца аж назад
мяне не звабіла перахрасьціцца
на які-небудзь папад.

...дзе-б не канчаліся дарогі
сумненьняў сьветлых, як сьвятло,
мэдузы цела спатыкаецца,
у хвалі кінецае, каб плыло.

Навет і тады чароўнасьць сьніцца,
І абяцаць бадай што згодны:
— Я пакажу: вунь дом ваш нізіцца,
мне-ж камень кінены — прытул мой родны.

1952 г.

* * *

...і сьлёзы дзяціныя — пачатак наш,
І калі зьбянтэжаныя з адказам і пытаньнем —
выступ грайкі зводзіць нас
з нашым цёплым гэткім раньнем.

У смутку цяглым дзяціных зваб
на спатканьне цягне яе рука,
І насустрач той самы раб,
у тых самых берагох рака.

А потым быццам — усё здарыцца...
Ізноў красуюцца краскі дзіў.
Але знаёмае незнаёмым робіцца
там, сярод
ужо дасьпелых ніў.

# БОЛЬ ЗА РАДЗІМУ — АДВЕЧНАЯ ТЭМА



Аляксей НЕНАДАВЕЦ

Апошнім часам даводзіцца ўсё болей і болей задумвацца над філасофскімі аспектамі жыцця, і ў гэтым, відаць, найбольш адлюстроўваюцца непрадказальныя перыпетыі сучаснасці. Дакладней, заўважаецца нейкая часовая разгубленасць перад усім тым, што адбываецца навокал, калі цяжка нават прадбачыць адказ на пытанне, на якое яшчэ ўчора можна было адказаць не задумваючыся.

У мяне няма канкрэтнага любімага маладога паэта сярод маіх сучаснікаў. А зрэшты — ён ёсць, але гэта зборны вобраз, калі нават можна так сказаць, — сумарны. Мне падабаецца, як замілавана піша пра нашу палескую прыроду, непаўторную па сваёй прыгажосці, Уладзімір Марук, як хораша ўзмаўляе рамантычныя карані многіх забытых паданняў роднай зямлі паэтка-летуценніца Ірына Багдановіч, як чэрпае свае паэтычныя сілы і натхненні ў фальклорнай плыні нашай вуснапаэтычнай творчасці Валянціна Аколава...

Арганічна дапаўняюць грамадзянскі "бок" майго зборнага паэта Людміла Рублеўская і Віктар Шніп. Іхнія вершы я чытаю ўжо даволі даўно, але асабліва блізкай мне іх паэзія стала пасля вечарыны ў Доме літаратара, што была прысвечана творчасці самабытнай паэтычнай сям'і. Людміла і Віктар, як ніхто іншы з маіх сучаснікаў, здолелі раскрыць супярэчлівы духоўны свет маладых людзей, якія жывуць у вірлівы час, дзе сённяшні дзень ні ў чым не падобны на ўчарашні, дзе немагчыма сказаць, якім жа будзе дзень заўтрашні...

Прадбачыць тое, што можа адбыцца, наканавана толькі паэту, надзеленаму сапраўдным талентам, бо, акрамя гэтай "божай іскрынкі", ён яшчэ валодае здольнасцю прадугледжваць, прадказваць, чым і адводзіць ад людзей трагічныя памылкі. Праўда, такое не заўсёды ўдаецца зрабіць своечасова. Тут многа прычын: просты збег акалічнасцей, складанае сацыяльнае становішча, прыродная стыхія. Але нават і гэтыя страшныя з'явы адступаюць на задні план перад людской абыякавасцю, раўнадушшам і перад тым, што ў апошнія часы называецца бюракратызмам.

Хто не пагодзіцца з тым, што Л.Рублеўская сказала праўду, калі напісала, што

*Гэта немагчыма:*
*Зайсці ў Дом урада на шклянку кавы*
*і нікому нічога не паказаць.*
*Напіцца са Свіслачы і паздаравець.*
*Зрабіцца агульнавядомым і беларускамоўным.*
*("У свеце цікавага").*

Хто папракне яе гэтыя радкі ў недакладнасці ці ў неаб'ектыўнасці?

А можа, схібіў недзе В.Шніп, адзначаючы:

*У нашым грамадстве не будзеш без працы —*
*Хто дачу будуе, хто — сацыялізм.*
*Стаяць, як праклятыя, бюсты на пляцах,*
*А горад хварэе на алкагалізм.*

Нам усім ужо надакучыла хлусня, у "вярхах" і на "нізах", пастаяннае трымценне ад таго, што ж можа здарыцца, калі я асмелюся нешта сказаць супраць тых, хто "кіруе" і "ўзначальвае", бо мы ж, а вядома гэта даўно, ідзём (ці, дакладней, крочым!) у будучыню... якая, на жаль, не абнадзейвае. Традыцыя слепа падпарадкоўвацца прывяла да таго, што мы ўжо не здолеем адказаць на самыя простыя пытанні, на якія, незадумваючыся асабліва, цвёрда і пераканаўча адказвалі нашы продкі. Або вось гэтыя радкі:

*Чорны крыж ля дарогі стаіць,*
*Чорны крыж у нябёсах ляціць.*
*А Іуда цалуе Ісуса,*
*А Іуда прадаў беларуса.*

Мы губляемся ў моры гэтых супярэчлівых пытанняў, якія паўстаюць і паўстаюць, і іх не тое, што вырашаць, нават пазнаёміцца з імі падрабязней няма магчымасці. Яны так моцна ўздзейнічаюць на нашу псіхіку, што і сам пачынаеш дапытвацца: "Хто ж я?".

*Трымціць у вадзе аер.*
*Хачу цеплыні, спакою.*
*А я — напалову звер —*
*Маўчу нематой людскою.*
*Я — вылюдак для людзей,*
*І я ж для ваўкоў —*
*пачвара.*
*("Ваўкалак", Л.Рублеўская).*

Хто скажа, што гэта няпраўда? Што так не было і што так не застаецца, пакуль што і па наш дзень? Абагулена сказана? Але ж тут паняшчаму і нельга, бо такія выпадкі не адзінкавыя здарэнні, а масавая з'ява перыяду будаўніцтва ўсім нам сумнавядомага "светлага заўтра". Вось і цяпер ужо колькі гадоў нас цешаць сваімі абяцанкамі "дэмакраты" і "антыдэмакраты", ды толькі істотна пакуль што нічога не мяняецца. Сапраўды, ці кожны з нас над гэтым задумваўся, ды і ці ў кожнага была патрэба ў гэтым, бо яго ж пастаянна "накіроўвалі", "вызначалі" яму рух наперад. І прыйшлі...

Дзеля таго, каб нешта прадбачыць у дні заўтрашнім, трэба абавязкова вяртацца ў мінулае, да гісторыі нашых продкаў. Гэты зварот можа быць самым розным і далёкім, ажно да Ф.Багушэвіча, да матываў ягонай творчасці і да ўчарашняга мінулага, да вобразаў тых вясковых бабуль і дзядуляў, якія яшчэ на нашай памяці жылі ў родных вёсках. Гэта ўжо наша з вамі непасрэдная памяць, карані якой адміраюць на нашых, часам (даволі часта!), абыякавых вачах:

*Заморыцца, пакурыць,*
*Пагутарыць з сабою.*
*Глядзіш,*
*ізноў пілуе —*
*Няма яму спакою.*
*І як тут не паможаш*
*Самотнаму суседу?*
*— Чаму ж не едуць дзеці?*
*— Памру, тады прыедуць.*
*("Хведар", В.Шніп).*

Адраджэнне — гэты тэрмін чырвонай стужкай праходзіць праз усю творчасць Людмілы і Віктара. Прычым, адраджэнне не толькі ў культуры, літаратуры, мастацтве, але ў першую чаргу адраджэнне ў душах саміх людзей — беларусаў, бо без такога павароту нельга будзе нічога перайначыць, змяніць.

*І нікому цяпер даравання няма,*
*І не будзе ніколі на роднай зямлі,*
*Бо разбураны Храм, бо ў законе турма,*
*Бо цябе прахіндзеям за грош аддалі.*
*("На забытых кладах", В.Шніп).*

Часам у іх прарываецца смех, але гэта той смех, пра які гавораць: "смех праз слёзы". Хіба ж не так? Хіба ж няправільна сфармуляваў, няхай сабе мо яшчэ і не надта багатыя, але тонка адчутыя, перажытыя ім самім, жыццёвыя назіранні, В.Шніп, які з гараччу выгукнуў: "Мы шмат абяцаем, і нам абяцаюць. Мы шмат забываем, і нас забываюць". Ці яшчэ больш дакладна: "Я б пайшоў на працу ў міністэрства, ды міністраў там, што ў сучкі блох" ("У буфеце аўтастанцыі").

Хіба не ад імя гэткага ж равесніка выказалася Л.Рублеўская. Мне здаецца, яна правільна ўгадала настрой "маленькага" чалавека: "Мы — маленькія людзі, людзі крыўды вялікай. І няма, і не будзе нашых прозвішчаў у кнігах!". Або вось гэтыя радкі:

*Заблудзіў карабель наш у моры.*
*Стырнавы — і сляпы, і стары.*
*А на палубе людзі гавораць,*
*І смяюцца, і стогнуць вятры".*
*("Уцекачы", Л.Рублеўская).*

Усе варыянты паспешнай сацыяльнай і духоўнай "перабудовы" ў першую чаргу апрабоўваюць на тых, хто працуе, а калі ён працуе, то, адпаведна, у яго няма асаблівага часу разбірацца, што, дзе, ды як. Так было. Але так ужо ніколі не будзе! Не. Не будзе! Народ ужо абудзіўся, яму ўжо немагчыма закрыць вочы "хадавымі" лозунгамі. Нельга супакоіць расхвальваную масу людзей, падсунуўшы ім талоны "на пражыццёвы мінімум":

*Сукенкі, шапкі, боты,*
*Трусы і панталоны*
*Купляйце, абармоты,*
*А то ўвядзём талоны!*
*("Базарная ідылія", В.Шніп).*

Л.Рублеўская значна паглыбіла гэты аспект, напоўніла яго тонкім псіхалагічным падтэкстам і радкі атрымаліся яшчэ больш моцнымі. Яны нечым нагадваюць мне лепшыя ўзоры з творчасці класікаў беларускай літаратуры грамадзянскіх матываў, якія таксама непакоіліся за будучыню роднага народа. Бо сапраўдны паэт і народ — гэта заўсёды непадзельнае, адно агульнае цэлае. Праўда, тут аўтарка спрабуе данесці да людзей не гераічнае, а яшчэ раз абудзіць здранцвелых сучаснікаў да актыўнасці, карыстаючыся напамінам пра экалагічны і духоўны стан у рэспубліцы:

*Віншую вас, мы вымірaем!*
*Цяпер не доўга ўжо цярпець.*
*Край зробіцца сапраўдным раем,*
*Калі яго ачысціць смерць.*
*І застануцца толькі душы*
*Сярод нябачаных раслін.*

У гэткім жа становішчы апынулася і адна з самых старажытных усходнеславянскіх моў — беларуская. Зараз шырыцца хваля адраджэння ўсяго забытага, занядбалага, свядома адкінутага тымі, каму гэта было выгадна. Але з якой цяжкасцю адбываецца гэты працэс! Вельмі доўга нам забівалі галовы падзеямі "абрэзанай" ці "русіфікаванай" гісторыі, выкідалі са слаўнага мінулага Беларусі не толькі паасобныя прозвішчы ці падзеі, але нават цэлыя эпохі. Адмаўлялі нам у веданні свайго радаводу. Болей таго, на асновах гэтай прапаганды выраслі новыя пакаленні, якія з непаразуменнем глядзяць на тых, хто заклікае да служэння роднай мове, Радзіме. Мова — дык я ведаю рускую і дастаткова. А Радзіма, Радзіма — гэта ж ад адной мяжы і да другой, або "ад мора і да мора". І навошта тут ламаць галаву! Ды яшчэ калі пра ўсеславутую суслаўскую тэорыю "савецкага народа" [illegible] і ўвогуле, здавалася, няма чаго хвалявацца... Гэта было і, на вялікі жаль, гэта яшчэ ёсць, але і Л.Рублеўская і В.Шніп аднадушныя ў сваіх меркаваннях:

*Ён біўся на чужой зямлі.*
*За што?*
*Не верыць, што дарэмна.*
*Радзіму ў яго ўзялі,*
*І ён назваў Радзімай — неба.*

В.Шніп, нібы падсумоўваючы разважанні над цяжкасцямі нашага часу, спалучаючы ў гэтым набалелым перажыванні ўласнай душы і хваляванні свайго аднагодка-сучасніка, выдыхнуў:

*а на прашпекце Утопіі,*
*дзе нядаўна яшчэ было адно быдла,*
*з'явіліся людзі.*
*("горад Утопія").*

Падводзячы вынікі, адзначым, што не толькі ў паэтычным свеце маладых аўтараў на вуліцах з'явіліся людзі замест абагуленай масы, але гэтаксама з'явіліся новыя аспекты ў беларускай паэзіі, носьбітамі якой з правам можна назваць Л.Рублеўскую і В.Шніпа. Нельга сказаць, што матывы і аспекты гэтыя зусім незнаёмыя. Не, яны ўжо жылі, існавалі ў нашай літаратуры, яны ўжо сказалі свае важкае слова ў развіцці беларусаў, але былі вынішчаны бязлітаснымі і крывавымі 30-мі гадамі.

Сёння пачаўся новы ўздым нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, і мне радасна адчуваць, што мой грамадзянскі герой, жыццё ў якога ўдыхнулі таксама і Л.Рублеўская з В.Шніпам, крочыць наперадзе тых, хто не шукае сабе спакойнага, ціхага прытулку.

*Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у рэдакцыі часопіса "Першацвет" (Дом друку, праспект Ф.Скарыны, 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-56-53.*

*Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.*

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

( Пачатак у №№ 34—36).

Яхоўскі слухаў манатонны голас начальніка, які раіў пры кантактах з агентурай асаблівую ўвагу звяртаць на інфармацыю аб дзейнасці апазіцыі, распрацоўку кватэр, вакол якіх завіхаецца зашмат людзей, месцаў, дзе часта з'яўляюцца нелегальная літаратура і ўлёткі. "Ці сапраўды гэта нашая справа",— думаў ён пра сябе, але не адважваўся сказаць гэта ўголас. Працаваў толькі два гады, адразу пасля вучэльні атрымаў участак на Макатоўскай і яшчэ не быў цалкам упэўнены ў сабе.

Асцярожна глянуў на гадзіннік. Праз гадзіну разам з хлопцамі мелі ехаць на Таргувэк. З'явіліся новыя звесткі ў справе забойства на Макатоўскай. Ягоная першая сур'ёзная справа — "Лісы". Узгадаў, як акуратна выпісваў крыптонім на папцы са справай. Маладая жанчына дала ў "Жыцці Варшавы" аб'яву — продаж курткі з лісы. На наступны дзень была знойдзена мёртвай ва ўласнай кватэры. Знікла толькі тая куртка. Сям'я загінуўшай была ў роспачы. Яхоўскі спрабаваў пераканаць начальства ў тым, што трэба апублікаваць інфармацыю аб прызначэнні сям'ёй забітай вялікай грашовай узнагароды таму, хто спрычыніцца да высвятлення справы. Гэта была б першая прыватная ўзнагарода ў крымінальнай справе. Яхоўскі ўжо складаў у думках змест паведамлення. Рашэнне аб гэтым нібыта мае быць прынята ў Галоўнай Камендатуры.

Начальнік ад імя міністэрства абяцаў прэміі, узнагароды, талоны на машыны, мог нават дапамагчы ў атрыманні кватэры.

— Ужо бачу гэта, — буркнуў у бок Дрожджа Яхоўскі, якому абяцалі кватэру яшчэ на пачатку службы, бо ён дагэтуль туліўся разам з жонкай і малым дзіцём у нанятым пакоі. У дадатак Малгажата зноў зацяжарыла. Яхоўскі нават прасіў свайго начальніка дапамагчы ў размове з Камендантам сталіцы, але ўсе на адзін голас раілі, каб ён не высоўваўся, бо кватэр і так няма. За цяжкую працу ў Крымінальным — "кватэр няма", а за выяўленне нелегальнай друкарні — "дапамога пад час размеркавання",— падумаў ён пахмурна.

— Асаблівай актыўнасцю апошнім часам вызначаецца нейкі Зыгмант Кавальчык — начальнік удакладніў прозвішча з нататкі. Так, Зыгмант Кавальчык, шуканы за ўцёкі з месца адасаблення. Згодна з аператыўнымі паведамленнямі "тройкі", верагодна, ён быў арганізатарам учарашняй улёткавай акцыі. Здымак шуканага перададзены ва ўсе пастарункі краю.

— Кавальчык?— ачуўся Яхоўскі. — Хлопцы, я яго ведаю! Як пачалося інтэрніраванне, схапілі яго за дупу ў кватэры тыпа, якога мы мелі браць,— паведаміў ён калегам шэптам.

— Паручнік Яхоўскі! Будзьце ласкавы выслухаць, што мае сказаць ваш кіраўнік,— павысіў голас начальнік.

— Так ёсць, грамадзянін палкоўнік,— падхапіўся прысаромлены Яхоўскі.

Яны аж занадта добра памяталі ноч з 12 на 13 снежня мінулага года. У суботу ўвесь Крымінальны сабраўся ў Камендатуры а 14 гадзіне. Мела быць выканана чарговая (трэцяя) частка агульнапольскай міліцыйнай акцыі "Парадак", скіраванай супраць злачыннага элемента. Яхоўскі больш як тры гадзіны сядзеў у пастарунку на Волі, у памяшканні тамтэйшага Крымінальнага аддзела. Усе глядзелі канфіскаваныя відэафільмы і падмацоўваліся пайковай каўбасой. Здзіўляліся, чаму дагэтуль няма сігналу на выезд. Была ўжо хіба шостая гадзіна, калі іхняй групе было загадана вярнуцца ў палац. Думалі, што гэта адбой, скасаванне акцыі, але на пад'ездзе ўбачылі тое, чаго Яхоўскаму не забыць да канца жыцця: дзесяткі функцыянераў Службы Бяспекі ланцужком выходзілі з палаца і кожны з іх нёс у руцэ лом.

Сам ён быў скіраваны ў камендатуру Прага-Поўнач. Там ужо сядзела каля двух дзесяткаў функцыянераў у форме і ў цывільным. Была абвешчана забарона ўсялякага кантактавання са знешнім светам. Нават у прыбіральню маглі ісці толькі пад апекай. Цывільны, побач з якім сядзеў камендант пастарунка, спакойным голасам пачаў чытанне дэкрэта аб увядзенні ваеннага становішча. Яхоўскі дагэтуль памятаў дрыжыкі, якія прабеглі па плячах. Запомніў толькі фрагменты прачытанай цывільным інструкцыі: "У выпадку неабходнасці ўжываць зброю..." Атрымаў заклеены капэрт, пазначаны ягоным прозвішчам. Усярэдзіне было прозвішча чалавека, якога ён меў прывесці ў пастарунак, адрас і дакладны план праходу да кватэры. "Няблага падрыхтавана",— падумаў, прызнаючы тактычныя здольнасці арганізатараў акцыі.

— Міліцыя, прашу адчыніць!

— Мужа няма дома, — адказаў спалоханы кабецін голас.

— Прашу адчыніць!

Дзверы паддаліся першаму ўдару. Жанчына стаяла на калідоры з нерухомым тварам.

— Мужа няма? Ну, то праверым, хто ёсць. — Яхоўскі, жадаючы неяк зменшыць напружанне, шырока ўсміхнуўся і падышоў да бліжэйшай шафы. Згодна з інструкцыяй, мусіў зрабіць вобыск. — А можа тут хаваецца нейкі каханак? — недарэчна пажартаваў ён.

Хіба яшчэ ў жыцці не мелі настолькі ідыёцкіх твараў. Той, у шафе, і Яхоўскі.

— Вы — грамадзянін Ян Марчук? Калі так, маю загад аб вашым інтэрніраванні, — разгублена сказаў паручнік.




— Інтэр... што? — прагучаў роўна разгублены адказ з шафы.

— Ін-тэр-ні-раваць,— па складах паўтарыў Яхоўскі.

Толькі цяпер зразумеў: твар Марчука ён шмат разоў бачыў па тэлевізіі, перадачы якой скупа цытавалі найбольш агрэсіўныя фрагменты ягоных палымяных выступленняў. Але гэта не быў твар чалавека з шафы. Хутчэй за ўсё Марчук быў на краёвым з'ездзе "Салідарнасці" ў Гданьску. Ідыёты, павінны гэта ведаць да таго, як пасылаць сюды нас, падумаў пра бяспеку.

— З чаго смеяцеся?— кінуў ён паліцэйскаму, які прыйшоў разам. Той адразу надаў паважны выраз твару і механічна сказаў:

— Калі ласка, пашпарт.

— Хіба не бачна, што няма,— мужчына выбраўся з шафы і, сарамліва прыкрываючыся нейкай шматкай, пайшоў у спальню.

Так, гэта быў гэты Кавальчык, прыгадаў цяпер Яхоўскі. Але ж падпольшчык! Узялі тады яго да "высвятлення", як загадвала інструкцыя. Яхоўскі аж занадта добра памятаў, колькі пазней меў з ім клопатаў.

Нарада Крымінальнага аддзела скончылася так позна, што Яхоўскі ўжо не заспеў чалавека, які меў даць яму інфармацыю па справе, пазначанай грыфам "Лісы".

— Што табе нейкі там забойца. Лепш будзе, калі знойдзеш свайго палітычнага пратэжэ,— сказаў сяржант Дрождж.

## РАЗДЗЕЛ 2

*Аўторак, 30 лістапада 1982 г.*
*Варшава,*
*рэзідэнтура КДБ.*

У рэзідэнтуры КДБ генерала Яўленку ў такім добрым настроі дагэтуль не бачылі. Гэты, звычайна аскетычны, пахмурны і непрыступны агрызотнік сёння папросту зыходзіў зычлівасцю да свету і добрым настроем. Звычайна не сустраканыя ў ягоным слоўніку "спасибо" і "пожалуйста" раздаваліся направа і налева.

Здзіўлены ад'ютант сцвярджаў, што метамарфоза адбылася пад час побыту генерала ў Маскве, куды ён быў выкліканы пільнай тэлеграмай у нядзелю. Настолькі нечаканыя "запрашэнні" звычайна не абяцалі нічога добрага. Заклапочаны ад'ютант у глыбіні душы назаўсёды развітваўся са сваім шэфам, калі вёз яго на вайсковы аэрадром на Бемаве, куды па Яўленку прыслалі спецыяльны самалёт. Тым больш было ягонае здзіўленне, калі на наступны дзень убачыў шэфа ў кабінеце і да таго ж у цудоўным настроі. Што за чорт?— ламаў сабе галаву. Дзеля павышэння ў рангу ці атрымання ўзнагароды самалёт па яго не прыслалі б. Але нягледзячы на тое, што яму проста надзвычайна карцела запытаць пра прычыну візіту ў Маскву, не зрабіў таго. Добра ведаў, што падобнае пытанне магло б азначаць канец кар'еры.

Генерал Яўленка сапраўды пачуваў сябе цудоўна. Учора яго выклікаў да сябе на прыватную размову сам кіраўнік КДБ. Ужо сам факт спаткання ім на чатыры вокі быў своеасаблівым знакам, але тое, што Яўленка пачуў, перасягнула ягоныя найсмялейшыя спадзяванні. Генерал Федарчук выдаў яму — даверыў! — што праз некалькі дзён спадзяецца быць зацверджаным на пасадзе міністра ўнутраных спраў СССР. І ясна даў зразумець, што можна спадзявацца на вялікія змены на Лубянцы. Не перайтасоўку,— дадаў ён значна,— але павышэнні.

А потым перайшлі да сэнсу справы. Рашэнні аб гэтай аперацыі, як даў яму зразумець Федарчук, былі прынятыя ў вузкім коле высокапастаўленых сыноў дзяржавы. Можа нават самім Андропавым. І вось ён, генерал-маёр Яўленка, уласнымі рукамі мае выканаць тое, што заваліў балгарскі вывяд. Гэта яму, зразумела, сказана не было, але меў дастатковую кемнасць, каб ведаць падобныя рэчы. Зрэшты, факты гаварылі самі за сябе. Відавочна, што балгары сапсавалі ўсю справу. Пакінуць гэтага Агджу жывым пасля замаху — удалага ці не — было ўжо чыстай аматаршчынай. Чаму выканаўцу ніхто не забяспечваў пад час аперацыі на пляцы святога Пятра — гэта ўжо ён, Юрый Уладзіміравіч Яўленка, не мог зразумець.

Юрый Уладзіміравіч... Не Андропаў, але Яўленка. Ну што ж, Андропаву таксама давяралі важныя заданні, у Будапешце, у 1956 годзе. Важныя, але не настолькі складаныя. Імрэ Надзь тады і так прайграваў, а тут... Папа!

Генерал Яўленка дазволіў сабе такую рэдкую ў ягоным жыцці хвіліну хвалявання і мараў. Не ўмеў таго перадаць, але пачуваў сябе так, нібыта ў яго выраслі крылы з плеч. Мець уласнае бюро на трэцім паверсе і кабінет з выглядам на праспект Карла Маркса... Яго ацвярэзіў упарта паўтораны ўспамін пра іншыя словы Федарчука: "Толькі не падвядзі, адкажаш галавой". Не, падвесці ён не можа.

Задумаўся над планам хуткай размовы з чалавекам, якому ён можа сказаць: "Не можаш падвесці. Памятай, гэта мусіць быць польская справа".

*Нядзеля, ранак, 5 снежня.*
*Кампіноўская пушча.*

Чакаў яго ва ўмоўленым месцы на ўскрайку Кампіноўскай пушчы. Надвор'е не было найлепшым, але ж вядома, што толькі ўраган можа ўтрымаць дома прыхільнікаў шпацыраў на свежым паветры. Пайшлі ў бок знаёмай палянкі сцежкай, ля драўлянай агароджы. Генерал Яўленка пачаў размову толькі пасля таго, як пераканаўся: паблізу няма іншых аматараў прагулак.

— Перапрашаю, таварыш Краеўскі, за гэту нязвыклую форму сустрэчы, але будзе лепш і для вас, і для мяне, каб ніхто не бачыў нас разам. Прашу таксама дараваць, што дазволіў сабе, запрасіўшы вас на спатканне, ужыць ваш стары пароль-выклік і псеўданім "Косця",— гаворачы гэта, ён разглядаў нервовую грымасу на твары суразмоўца.

— Парадак. Калі трэба, дык трэба. Не спадзяваўся, праўда, што нехта яшчэ скарыстаецца гэтым праз столькі год і тым больш пры маім цяперашнім становішчы,— Краеўскі махнуў рукой. Гаварыце, у чым справа.

Яўленка з задавальненнем канстатаваў: першы стрэл быў трапным. Багуслаў Краеўскі, сябра Палітбюро і сакратар ЦК ПАРП, яўна не быў у захапленні ад прыгадвання свайго старога псеўданіма, атрыманага ім яшчэ ад кіраўніка СМЕРШ дывізіі ў Любліне, у 1944 годзе. З чыста ідэйных меркаванняў дапамагаў у той час распрацоўваць рэакцыйнае падполле, а як "Косця" апошні раз працаваў, бадай, у 1952 годзе, калі быў слухачом Цэнтра падрыхтоўкі пры Міністэрстве Дзяржаўнай Бяспекі, у Легіёнаве. Потым атрымаў падзяку за добрую работу, гадзіннік і пажаданні паспяховай работы ў органах. І зноў, праз трыццаць гадоў?

З задумення яго вырваў голас Яўленкі.

— У чым справа? А ў тым, што гэты ваш Ярузэльскі кумуецца з Папай, Валенсам і чорт ведае кім яшчэ. Нібыта ўжо забыўся, чым ён нам абавязаны. Мы маем доказы: ён згадзіўся на вывад вас і яшчэ некалькіх таварышаў з Палітбюро і Цэнтральнага Камітэта. Гэта — цана кампрамісу з кардыналам Глемпам. Відаць, добра залезлі ім пад скуру — з выразам зразумення ён штурхнуў Краеўскага за плячо. І што вы на тое?

— Гэта немагчыма, таварыш Яўленка. Маю сваіх людзей у міністэрстве, нешта мусіла б да мяне дайсці,— няпэўна запратэставаў Краеўскі.

— Сваіх людзей,— пагардліва працадзіў генерал. Сваіх людзей там даўно ўжо мае Кішчак. Можа, чулі пра яго? Гэта такі сабака Ярузэльскага,— іранізаваў Яўленка.

— Таварыш Яўленка,— разнерваваўся ўрэшце Краеўскі,— я не дзіця. Навошта вы ўсё гэта мне гаворыце, а яшчэ і ўжылі пароль "Косця", каб спаткацца са мной? Давайце проста з моста.

— Проста з моста? Няхай так, таварыш Краеўскі. На размову з вамі я ўпаўнаважаны непасрэдна таварышам Андропавым,— ён прыпыніўся, каб праверыць, які эфект выклікалі ягоныя словы.— Таварыш Андропаў страціў давер да Ярузэльскага і сёння на ягоным месцы жадаў бы бачыць вас. Падобна мысляць і таварышы Усцінаў з Горбавым, але, верагодна, супраць гэтага будуць іншыя сябры Палітбюро. Аднак калі б атрымалася паказаць, што сітуацыя ў Польшчы выходзіць з-пад кантролю, дык справа пайшла б значна хутчэй. Ці трэба гаварыць далей?

— Калі ласка, гаварыце. Калі, як вы казалі, Ярузэльскі і Кішчак хаўрусуюцца,— рызыкнуў ён вострым словам,— з антысацыялістычнымі сіламі, трэба дзейнічаць,— падштурхнуў ён Яўленку да працягу размовы.

"Рыба праглынула кручок, цяпер трэба асцярожна пацягнуць",— падумаў генерал.

— Так, але як паказаць, што Ярузэльскі страчвае ўладу ў краіне? Апазіцыя суцішаецца, людзі меней страйкуюць, сітуацыя нармалізуецца. Тут быў бы патрэбны нейкі стрэс, разумееце.

— Можна было б, напрыклад, арганізаваць спробу замаху на Валенсу і вывесці след на Кішчака,— ціха даказаў Краеўскі, адкінуўшы ўсялякую асцярожнасць. Узнялося б усё Прыбярэжжа, а за ім — уся Польшча.

— Прыбярэжжа яшчэ не ўся Польшча. Досыць будзе адсячы сувязь, як у Гданьску, і правесці аперацыю суцішэння — і няма клопату,— генерал захапіўся накірункам размовы.— Гэтага недастаткова.

Калі гэтага замала, дык што ж больш? Сёння ў Польшчы няма нікога, хто ўзбудзіў бы большую істэрыю тлумаў,— пераконваў Яўленку сакратар.

— Сапраўды няма?

Нешта ў голасе Яўленкі насцярожыла Краеўскага. Ён узяў Яўленку за локаць, змусіўшы затрымацца на сцежцы. Цяпер глядзелі проста ў вочы адзін аднаму.

— Кажыце.

— Папа,— ціха сказаў Яўленка — Папа хутка будзе ў Польшчы.

(Працяг будзе).

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

*Магія прыгажосці*

# «ВІЗІТНАЯ КАРТКА» ЖАНЧЫНЫ —

*гэта яе рука. Згадзіцеся, нярэдка пры знаёмстве нам хочацца, каб у полі зроку субяседніка як мага менш знаходзіліся нашы рукі, бо на мезенцы правай лак крыху абадраўся, і на далонях чамусьці лупіцца скура. Рукі патрабуюць не меншага догляду, чым твар. Ларыса Васільеўна Лабуціна, майстар міжнароднага класа па дэкаратыўнай касметыцы, прыязна згадзілася падзяліцца сваім вопытам з чытачамі "Чырвонай змены".*

* * *

Не падмяняйце рукамі сродкі і прылады для мыцця і чысткі. Не саскрабайце пазногцямі плямы на адзенні, кавалачкі пластыліну або воску калі мыеце падлогу, не выкручвайце шрубкі з расхістанай мэблі. Для гэтага ёсць скрабалкі, шчоткі, адвёрткі.

Здаровыя пазногці — гэта перш за ўсё дастатковая колькасць вітаміну "А" ў арганізме (морква, памідоры, абрыкосы) і "Д" (дрожджы, сметанковае масла, малако, жаўток). Калі пазногці ломяцца і слаяцца, прымайце па адной сталовай лыжцы разведзены жэлацін, увядзіце ў свой рацыён розныя жэле і заліўныя прадукты.

Калі скуру твару карысна пакідаць крыху вільготнай пасля ўмывання, то скуру рук трэба старанна выцірадь і абавязкова змазваць пажыўным тлустым крэмам. Асабліва зімой перад выхадам на вуліцу.

Скура рук пакутуе і летам ад моцнага сонца, таму дабаўце да асноўнага догляду і ўвільгатняльны крэм.

Крэм для рук можна замяніць і крэмам для твару. Асабліва ён будзе добры, калі дабавіць некалькі кропель лімоннага соку.

Масажыраваць рукі крэмам трэба ад кончыкаў пальцаў да кісці, а затым да запясця (па прынцыпу нацягвання тонкіх пальчатак).

Калі рукі загрубелі, то трэба правесці комплекс лекавых працэдур, але не адкладвайце гэтага, спасылаючыся на тое, што "няма часу" або "дзе ўзяць лішнія прадукты". Паверце, усё гэта ўжо ёсць, а пры няведанні прападае ў вашым доме.

1. Вы адварылі бульбу. Адвар астудзіце, пераліце ў міску. Апусціце абедзве рукі на 7—10 хвілін, памасажыруйце кожную костачку і затым, не абмываючы, насуха прамакніце і нанясіце крэм.

2. Тое ж самае зрабіце з любым адварам агародніны, напрыклад, капусты, ці адварам траў або з растворам марской солі.

3. Сталовую лыжку любой кашы, прыгатаванай па ўсіх правілах кулінарыі, развядзіце сталовай лыжкай гарачай вады і над міскай натрыце, хутчэй "намыльце" ёй рукі, расціраючы загрубелыя месцы. Праз 2—3 хвіліны змыйце цёплай вадой і нанясіце крэм.

4. Тое ж самае зрабіце з рэшткамі вадкага цеста (напрыклад, для бліноў).

5. Нанясіце на рукі крыху цёплага алею. Прамасажыруйце не толькі скуру на кісцях рук, але асабліва старанна валік пазногця, пазногцевае ложа і акуратна адсуньце надскурку лапаткай.

6. Памятайце, пазногці, скура, валасы не любяць шчолач, а любяць кіслату. Націрайце пазногці пры магчымасці кавалачкам агурка, лімону, ці любых кіслых ягад (клубніцы, парэчкі), змывайце слабым растворам воцату. Асабліва важна нейтралізаваць дзеянне шчолачы пасля карыстання мыйнымі сродкамі.

Пры жаданні вы можаце зрабіць маску для рук. Развядзіце кашку з любой мукой, лепш іржаной або аўсянай, 1 ст. лыжку на 1 ст. лыжку гарачай вады ці малака. Дабаўце 1 ст. лыжку алею, 1 ч. лыжку лімоннага соку і 1 ч. лыжку гліцэрыны.

Цяпер нанясіце маску на ўсю паверхню кісцей рук, абгарніце кожную руку ў поліэтыленавы пакет, заматайце ручнікам. Праз 20 хвілін змыйце, вытрыце і змажце крэмам.

Свой туалет жанчына заканчвае, калі наносіць духі. У апошні момант мы наносім духі на локцевым згібе і запясці. Неабходна, каб пах крэму на руках не перабіў пах духоў. Можна знайсці выйсце! У бляшанычку крэму для рук дабаўце 2—3 кроплі духоў.

Цяпер з такімі рукамі вам не будзе дыскамфортна ні ў якой сітуацыі.

Жанна ПАЦЕЕНАК.





# СПАТКАННЕ З "АЛЕКСАНДРЫНАЙ"

Яно можа стаць штодзённым, калі Вы прыйдзеце дзевятнаццатага ці дваццаць першага верасня ў аўдыторыю 64 па вул. Б.Хмяльніцкага,9.

Школа здароўя і прыгажосці "Александрына" задумвалася спачатку для падрыхтоўкі удзельніц конкурсаў мадэляў. Але чаму падцягнутымі павінны быць адзінкі з доўгімі нагамі і смазлівымі тварамі? Было вырашана — прыгажосць і здароўе — у масы! І школа пачала прымаць усіх жадаючых.

А жадаючых звычайна 60—80 чалавек. Узрост не мае значэння. "Калі жанчына за трыццаць не адчувае дыскамфорту побач з васемнаццацігадовымі, то якія могуць узнікаць праблемы?" — лічыць дырэктар школы Наталля Анатольеўна Шчурава.

Праграма разлічана на тры месяцы. Больш усяго ўвагі надаецца спартыўным заняткам, для якіх ёсць усе ўмовы (школа арандуе спарткомплекс Беларускай палітэхнічнай акадэміі). Два разы ў тыдзень дзяўчаты займаюцца амерыканскай аэробікай. Але гэта не адзін і той жа, раз і назаўсёды вывучаны комплекс, а пастаянна аднаўляемы. Пасля заняткаў аэробікай дзяўчатам прапануецца басейн. Калі хто не ўмее плаваць, гэта не перашкода. Плаванню навучаць.

Раз у тыдзень — заняткі харэаграфіяй. Каб выпрацоўвалася паходка і пастава, бо можна займацца штодзённа спортам, "накачаць" мышцы, але як увайсці ў спартыўны зал кручком, так кручком і выйсці.

Дзяўчаты праходзяць курс псіхалогіі — культура зносін. І гэта вельмі важны, патрэбны прадмет. Некаторым набытыя веды дапамаглі зберагчы сям'ю, камусьці — пазбавіцца комплексаў.

Прафесіянал-касметолаг вядзе курс "Сучасны макіяж", прычым кожная з вучаніц можа мець цыкл індывідуальных заняткаў.

Вельмі цікавыя лекцыі па гісторыі касцюма чытае мастацтвазнаўца Беларускага цэнтра моды.

Ну а праз некаторы час навучання, выхаванцы "Александрыны" могуць паспрабаваць сябе на подыуме БЦМ у паказе мадэляў адзення зімова-васенняга сезону.

Праграма навучання ўвесь час карэктыруецца. З верасня, напрыклад, уведзены новы прадмет — асновы этыкету.

Займаюцца ў школе ў асноўным студэнткі, вучаніцы старэйшых класаў. За тры месяцы паспяваюць пасябраваць і паміж сабой, і з выкладчыкамі, на развітальных балях бывае нават сумна. Некаторыя дзяўчаты паўтараюць курс навучання, большая ж частка працягвае займацца амерыканскай аэробікай ці наведваць басейн пры школе здароўя і прыгажосці.

І што такое ў наш час паўтары тысячы за тры месяцы навучання? Не такая ўжо высокая цана.

Школа здароўя і прыгажосці зноў запрашае ўсіх і кожнага.

Вы спяшаецеся на спатканне? "Александрына" прызначае яго а адзінаццатай дзевятнаццатага верасня і а васемнаццатай гадзіне дваццаць першага.

П. КРЫЛОВА.

КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЖАНЧЫН

## "...ЯК ВЫ МЯНЕ НАПАЛОХАЛІ!"

Што рабіць, калі начальнік настойліва прапануе вам "павячэраць у рэстаране ці сустрэцца ў выхадны?"

Каму, як не пераможцам конкурсу дзелавых жанчын, што праходзіў у Нью-Йорку, Ляцыцыі Болдрыдж і Юдзіфі Марцін, даваць парады пра тое, як ветліва, але цвёрда пазбавіцца ад надакучлівых заляцанняў мужчын на рабоце?

Ляцыцыя: – Гэта не той выпадак, калі трэба быць асабліва ветлівай. Не бойцеся заявіць шэфу, гледзячы прама ў вочы: "Мне падабаецца працаваць у вас, але спатканне з вамі ў непрацоўны час не ўваходзіць у мае абавязкі". Пастарайцеся пры гэтым выглядаць вельмі сур'ёзнай дзелавой жанчынай, якой няма калі займацца дробязямі.

А як растлумачыць мужчынам, якія сядзяць з вамі ў адным кабінеце, што вам непрыемныя калектыўныя абмеркаванні эратычных фільмаў, пераказы сексуальных сноў і да т.п.? Ляцыцыя дае параду:

– Падлавіце момант, каб застацца адзін на адзін. "Ты так горача рэагуеш на гэтыя тэмы! У цябе ёсць праблемы? Па-сяброўску раю звярнуцца да ўрача". Калі ж гэта не дасць станоўчых вынікаў, не саромейцеся звярнуцца за дапамогай да загадчыка аддзела.

І яшчэ адно пытанне: "Што рабіць, калі начальнік лічыць магчымым пагладжваць вас па таліі, нізка схіляцца да вас, калі вы сядзіце за сталом?"

Адказ Юдзіфі:

– Існуе цудоўны спосаб спыніць гэта раз і назаўсёды. Дастаткова толькі ўздрыгнуць, адскочыць убок і гучна ўскрыкнуць: "О, Божа! Як вы мяне напалохалі!"

Па матэрыялах друку.



Сёння ў "Чырвонцы" – своеасаблівая прэм'ера. Мы аднаўляем спартыўную рубрыку, у якой будзем знаёміць вас з навінамі, якіх наш чытач у апошні час быў, на жаль, пазбаўлены. Спадзяёмся, што вам будзе цікава даведацца пра спартыўныя падзеі менавіта са сваёй газеты. На спартыўнай старонцы мы будзем расказваць у першую чаргу пра падзеі ў гульнявых відах, безумоўна, самых папулярных. Не абыдзем увагай і найбольш значныя поспехі беларускіх спартсменаў ва ўсіх астатніх відах. Ну што, пачнём?

## ЛІК НА ТАБЛО

* * *

Не так даўно, у пачатку верасня, стартавалі гульні ў Міжнацыянальнай хакейнай лізе. У барацьбу за Кубак лігі ў складзе Заходняй зоны ўступіла і мінскае "Дынама". Ледзьве вярнуўшыся з насычаных шматлікімі гульнямі і доўгімі пераездамі замежных вандраванняў, каманда згуляла першыя чатыры гульні на сваёй пляцоўцы ў межах гэтых спаборніцтваў, адабрала ў сапернікаў — "Рыгас Старс" і Санкт-Пецярбургскага "СКА" — толькі палову ачкоў і зноў ад'ехала на аўтобусе ў Германію. З чарговага замежнага турнэ каманда вернецца хутчэй за ўсё "са шчытом", чаго пакуль у яе не атрымліваецца зрабіць ва "ўнутраных" (хаця гэта слова не адпавядае статусу Міжнацыянальнай хакейнай лігі) спаборніцтвах. На жаль. Але пажывём — убачым?

* * *

У вялікім тэнісе адбыўся чарговы турнір "вялікага шлема" — адкрыты чэмпіянат ЗША. У парным разрадзе былыя неразлучніцы Наталля Зверава і Ларыса Саўчанка-Нэйланд "разбілі" другую пару, якая летась перамагла на "Ралан Гаросе", — амерыканка Джыджы Фернандэс і чэхаславацкая тэнісістка Яна Новатна тады гулялі разам, — і сустрэліся ў фінале па розныя бакі сеткі. Перамогу атрымалі Зверава і Фернандэс, з чым мы шчыра віншуем нашу зямлячку!

* * *

Тыдзень таму адбыўся чарговы тур другога Нацыянальнага чэмпіянату Беларусі. Цэнтральнай яго сустрэчай, як гэта здараецца часцей за ўсё ў чэмпіянаце, стаў матч з удзелам мінскага "Дынама". Чэмпіёны прымалі на сваім полі бабруйскі "Трактар" і ледзь вырвалі перамогу ў сапернікаў, якія змагаліся на роўных. Пераможны мяч забіў Валерый Вялічка. Дарэчы, бабруйскі клуб чакае ў хуткім часе змена гаспадара, а з ёй, зразумела, і змена назвы. "Бярэзіна" — хутчэй за ўсё так будзе называцца бабруйская каманда. З іншых вынікаў адзначу першае ачко, якое заваяваў жодзінскі "БелАЗ", згуляўшы дома ўнічыю (1:1) з мінскім "Тарпеда". У мінчан, дарэчы, гэта пятая нічыя пры толькі адной зафіксаванай перамозе.

Але галоўнай футбольнай падзеяй тыдня, безумоўна, стала свята, прысвечанае дзесяцігоддзю перамогі мінскага "Дынама" ў чэмпіянаце СССР, якое адбылося ў панядзелак на галоўным стадыёне рэспублікі і якому прысвечаны галоўны матэрыял на нашай старонцы.

* * *

І яшчэ аб футболе. У сераду адбыліся першыя матчы пачатковых кругоў еўракубкаў. Ваш карэспандэнт пабываў у Кіеве, дзе мясцовае "Дынама" прымае венскі "Рапід". Чаму мы аддалі перавагу менавіта гэтай сустрэчы? Зразумела, вы ўжо здагадаліся! У саставе "Рапіда" гуляе наш зямляк Аляксандр Мятліцкі. Расказ аб матчы і размова з Аляксандрам — у наступным нумары. А венскі "Рапід", дарэчы, згуляў перад гэтым матч розыгрышу Кубка Аўстрыі ў Айзенштаце з аднайменнай камандай трэцяй лігі і перамог 1:0. Саша ў гэтым матчы не гуляў з-за траўмы, але ў Кіеве павінен быў выйсці на поле. Зрэшты, вернемся да гэтай тэмы праз тыдзень.

# КАЛІ КЕБІЧ ПРЫХОДЗІЦЬ НА СТАДЫЁН?



Матч, што адбыўся ў панядзелак на мінскім стадыёне "Дынама", безумоўна, прэтэндуе на тое, каб стаць галоўнай футбольнай падзеяй года ў рэспубліцы. Прынамсі, пакуль на галоўнай арэне не адбудзецца сустрэча, у якой зборная Беларусі будзе прымаць каманду ўзроўню зборных Германіі ці Даніі, у гэтага спартыўнага свята не будзе канкурэнтаў. У гэты вечар на стадыёне адбылося столькі падзей, кожная з якіх была б вартая асобнай размовы, калі б адбылася ў іншы час і ў іншых абставінах, што сярод іх нават цяжка вылучыць першы матч нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь! Аб'ядноўвала гэтыя падзеі адно — самае галоўнае. Прысвечана свята было дзесяцігоддзю гістарычнай перамогі мінскага "Дынама" ў чэмпіянаце СССР 1982 года.

Здзейснілася амаль немагчымае: у час, калі праходзяць чэмпіянаты Беларусі, Украіны, Расіі ў розных лігах, дзе амаль усе дзеючыя асобы заняты ў ролях трэнераў і ігракоў, сабралася ўся залатая каманда, за выключэннем бадай што Сяргея Алейнікава і Ігара Бялова. Ці будзе залішнім, калі я зноў разам з усімі паўтару іх прозвішчы. Кожнае з іх — сапраўднае імя ў спорце. Пра такіх кажуць: жывыя легенды... Юрый Пудышаў, Міхаіл Вяргеенка, Сяргей Бароўскі, Юрый Курнянін, Віктар Шышкін, Юрый Трухан, Людас Румбуціс, Валерый Мельнікаў, Сяргей Гоцманаў, Андрэй Зыгмантовіч, Ігар Гурыновіч, Пётр Васілеўскі, Георгій Кандрацьеў — усе яны, за выключэннем Міхаіла Нікіфаравіча, да таго ж галоўнага трэнера каманды-саперніцы, выйшлі на поле. Разам з імі — тагачасныя дублёры Юрый Курбыка, Сяргей Гоцманаў. На броўцы прастаяў увесь матч траўміраваны Віктар Сокал. Не прыехалі, на жаль, Мятліцкі і Радзёнак. Дзетак Аляксандра Пракапенкі і Віктара Янушэўскага запрасілі зрабіць першы сімвалічны ўдар па мячы. Трэнерскі састаў сабраўся ўвесь: Эдуард Васільевіч Малафееў, Веньямін Уладзіміравіч Арзамасцаў, Іван Іванавіч Савосцікаў, Міхаіл Ільіч Цэйцін, Васіль Максімавіч Дзмітракоў, Анатоль Іванавіч Усенка, Леанід Міхайлавіч Васілеўскі. Шмат імён яшчэ было названа, бо шмат людзей уносілі частку душы ў агульную перамогу.

І, безумоўна, не было б той славутай каманды, калі б ёй не папярэднічалі дзве не менш славутыя: мінскі "Спартак" узору 1954 і "Дынама" ўзору 1963. Тыя, хто змог прысутнічаць у той вечар на стадыёне з "бронзавых саставаў", былі паўнапраўнымі ўдзельнікамі свята.

Юбіляраў павіншавалі яшчэ нават у раздзявальнях члены ўрада В.Кебіч, П.Краўчанка і У.Рыжанкоў.

Перад матчам былі ўручаны залатыя медалі першага Нацыянальнага чэмпіянату Беларусі мінскім дынамаўцам узору 1992. Вось так, адным радком пра важнае.

Зрэшты, пра сам матч. Лік у ім атрымаўся, як заўважыў потым Міхаіл Вяргеенка, адпаведны — 1:1. Усе галы былі праведзены ў другім тайме, калі, правёўшы ўсяго тры замены, ветэранам процістаяў... цалкам іншы, чым у першым, склад зборнай Беларусі. Спачатку Бараноўскі "распячатаў" вароты Курбыкі, а потым за знос Гоманава ў штрафной галоўны арбітр матча Генадзь Карпенка (дарэчы, яму дапамагалі Валерый Сяменаў і Аляксей Ромін) паказаў на адзінаццаціметровую адзнаку. Дуэль Зыгмантовіч — Шанталосаў скончылася перамогай першага. Дарэчы, Валерый Шанталосаў пакуль першы з "легіянераў" у нашай зборнай. Вось такі баявы, з дзвюма нават жоўтымі карткамі атрымаўся футбол. І вельмі прыгожы!



Пасля матча на стадыёне панавала агульная эйфарыя. Героям матча фірмы-спонсары ўручылі самыя розныя сувеніры, самым "важкім" сярод якіх аказалася статуэтка футбаліста, падораная прэзідэнтам Італа-Беларускай гандлёвай палаты Джузэпэ Курці.

Дарэчы, размовай з гэтым сеньёрам я закончу гэты матэрыял. Не таму, што замежны госць быў галоўнай дзеючай асобай гэтай сустрэчы. Проста гэты погляд на падзеі з іншага боку, і можа з яго вуснаў некаторыя словы, якія мы палічылі банальнымі, асэнсуюцца намі па-новаму.

— Мне сёння сапраўды ўсё вельмі спадабалася,— сказаў сеньёр Курці.— Спорт — гэта штосьці высокае, як музыка. Праблемы, якія ў вас узнікаюць, штодзённыя, але спорт агульначалавечы, ён над жыццём. І гэта вельмі важны занятак для моладзі. Моладзь павінна займацца спортам, каб вырасці ў сапраўдных людзей фізічна і духоўна. Я закаханы ў футбол. Хаця ў мяне тры дачкі, але яны разам са мной наведваюць усе матчы маёй каманды. У маёй футбольнай школе 150 хлопцаў, і, вы ведаеце, я ўпэўнены, што яны не пойдуць на вуліцы па наркотыкі.

Я ўбачыў сёння вашу зборную, і хаця мне падабаецца гульня многіх ігракоў, яна гуляе не ў італьянскай манеры, гульня яе больш павольная. У Італіі футбол больш жорсткі, рухомы і дынамічны, і вашы футбалісты ў італьянскіх камандах маюць праблемы. Але я вельмі хачу, каб ваш Сяргей Герасімец гуляў у маёй камандзе.

Я прэзідэнт клуба "Вадэээ" з невялікага гарадка Сант-Анджэла ін Вада, у ім толькі тры з паловай тысячы жыхароў. Але ў аматарскім чэмпіянаце Італіі ёсць толькі тры каманды, якія амаль адзінаццаць гадоў гуляюць у ім, не саступіўшы ў ніжэйшы дывізіён. Мая каманда сярод гэтых трох. Калі за нас будзе гуляць Сяргей, мы абавязкова станем першымі.

Мы спадзяёмся, што хутка да нас у Італію прыедзе мінскае "Дынама". А з Леанідам Гараем мы паспрачаліся на вячэру, якую арганізуе прайграўшая каманда. Мы павінны перамагчы 3:0.

Вось так! Ад сябе яшчэ дадам, што Леанід Паўлавіч з гэтай думкай не пагадзіўся і запэўніў, што з гэтым жа лікам пераможа "Дынама". Пачакаем выніку...

Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік **Яўген ПУЧКОЎ.**

Фота Сяргея Брушко.



